ЗМЕСТ

# СІТУАЦЫЯ Ў СФЕРЫ СМІ Ў 2017 г. (АГЛЯД)

Заяўленая ў Беларусі лібералізацыя эканамічнага і культурнага жыцця не закранула сферу выказвання меркавання, як і іншыя сферы, звязаныя з захаваннем грамадзянскіх і палітычных правоў. Больш за тое, 2017 год апынуўся адным з найбольш цяжкіх для беларускай незалежнай журналістыкі за апошні час. Горшым становішча было толькі ў паствыбарчым 2011 годзе.

Гэтак, калі ў 2016 годзе БАЖ зафіксаваў 13 выпадкаў кароткачасовых затрыманняў журналістаў падчас выканання імі сваіх прафесійных абавязкаў, то за 2017 год – 101 выпадак. У 10 з іх журналісты былі арыштаваныя на тэрмін ад 10 да 15 содняў. У асноўным затрыманні праводзіліся ўвесну падчас правядзення ў Беларусі масавых акцыяў пратэсту. Пасля завяршэння "гарачай вясны - 2017 года" колькасць затрыманняў журналістаў таксама паменшылася.

У сакавіку 2017 года пасля амаль гадавога перапынку аднавіўся судовы пераслед журналістаў за супрацу з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Ён працягнуўся і пасля сканчэння пратэставых акцыяў. Як след, колькасць штрафаў журналістам-фрылансерам у 2017 годзе рэзка ўзрасла – 69 выпадкаў проці 10 у 2016 г. Гэта больш, чым за тры папярэдня гады разам узятыя. Агульная сума штрафаў перавысіла 25 тысячаў еўра.

Журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі медыямі, штрафуюць на падставе пратаколаў, складзеных міліцыяй паводле адвольна трактаванай імі часткі 2 арт. 22.9 Кодэкса адміністрацыйных правапарушэнняў, якая прадугледжвае адказнасць за незаконны выраб і/ці распаўсюд прадукцыі СМІ. Падобная практыка распачалася з траўня 2014 года. За 2014-2016 гг. журналісты былі аштрафаваныя паводле гэтага артыкула 48 разоў. Ва ўсіх выпадках падставай для прыцягнення іх да адказнасці стаўся не змест іх матэрыялаў, а сам факт іх з'яўлення ў замежных СМІ. У большасці выпадкаў пераследуюцца журналісты, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам "Белсат". Гэты тэлеканал уваходзіць уструктуру Польскага тэлебачання, але пазіцыянуе сябе як першы незалежны тэлеканал Беларусі.

31 сакавіка ў двух офісах, дзе працавалі журналісты, звязаныя з тэлеканалам "Белсат", міліцыя зладзілаператрусы і канфіскацыю абсталявання. ГУУС Мінгарвыканкама патлумачыла гэтыя дзеянні абаронай правоў на таварны знак па заяве праваўласніка.

ГА "БАЖ" у сваёй заяве ад 3 красавіка звязалаператрусы і канфіскацыю абсталявання з намерам уладаў спыніць дзейнасць незалежных тэлежурналістаў у краіне, асабліва падчас масавых акцыяў пратэсту.

Абвінавачанні ў незаконнай супрацы з замежнымі СМІ без акрэдытацыі прагучалі таксама ў крымінальнай справе супраць трох беларускіх аўтараў шэрагу расійскіх СМІ Юрыя Паўлаўца, Дзмітрыя Алімкіна і Сяргея Шыптэнкі (гэтак званая справа "рэгнумаўцаў"). Першапачаткова ім было прад'яўленае абвінавачанне ў распальванні нацыянальнае варажнечы па частцы 3 арт.130 Крымінальнага кодэкса Беларусі, які прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 5 да 12 год. Падставай для ўзбуджэння справы стаўся зварот у Следчы камітэт з боку Міністэрства інфармацыі пра наяўнасць у публікацыях гэтых аўтараў прыкметаў праявы экстрэмізму.

Пазней дваім з фігурантаў справы было дадаткова высунутае абвінавачанне паводле артыкула пра незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць, да якой следства прыраўняла артыманне ганарараў з рэдакцыяў расійскіх СМІ. (Пазней пракурор выключыў гэты артыкул з абвінавачання праз недаказанасць сумаў, якія былі атрыманыя абвінавачанымі.) У кастрычніку 2017 г. справа была перададзеная ў суд. Абвінавачаныя знаходзяцца пад вартай больш за год – з моманту затрымання ў снежні 2016 года.

"Рэпарцёры без межаў" адзначалі, што "артыкулы гэты трох блогераў з'яўляюцца спрэчнымі, але гэта не апраўдвае іх зняволенне. У адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі іх часовае затрыманне з'яўляецца ані неабходным, ані прапарцыйным."

28 верасня, незадоўга да перадачы справы "рэгнумаўцаў" у суд, у Беларусі быў зменены міністр інфармацыі. Новым міністрам быў прызначаны Аляксандр Карлюкевіч. У адрозненне ад сваёй папярэдніцы Ліліі Ананіч, А. Карлюкевіч мае вялікі досвед журналісцкай і рэдактарскай працы.

У першым публічным выступе на новай пасадзе ў эфіры нацыянальнага дзяржаўнага тэлеканала "Беларусь 1" А. Карлюкевіч паведаміў пра падрыхтоўку новай рэдакцыі Закона "Аб СМІ", закліканую забяспечыць дзяржаўнае рэгуляванне інтэрнэт-рэсурсаў і сацыяльных сетак.

Неўзабаве пасля гэтага паводле рашэння Мінінфарма ў пазасудовым парадку быў блакаваныпапулярны інтэрнэт рэсурс "Беларускі партызан" (belaruspartisan.org) , створаны вядомым журналістам Паўлам Шараметам, які трагічна загінуў ў 2016 годзе.

Мяркуецца, што прычынай абмежавання доступу да сайту на тэрыторыі Беларусі сталіся каментары яго наведнікаў. Уласнікі сайту перайшлі на іншую дамэнную зону і адключылі функцыю каментавання. У цяперашні час доступ да сайту belaruspartisan.by застаецца адкрытым.

Асноўным станоўчым вынікам 2017 г. сталася вяртанне ў дзяржаўныя сеткі распаўсюду дзевяці незалежных друкаваных перыядычных выданняў, якія былі выкінутыя з шапікаў "Саюздруку" і падпісных каталогаў "Белпошты" 11 год таму.

Гэта стала непасрэлным вынікаў сустрэчы галоўнага рэдактара газеты "Народная воля" Іосіфа Сярэдзіча з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, якая адбылася ў лютым 2017 года. І.Сярэдзіч перадаў кіраўніку дзяржавы спіс з дзевяці выданняў, якія не могуць трапіць у тую ці іншую дзяржаўную сетку распаўсюду СМІ. Прэзідэнт паабяцаў вырашыць гэтую праблему.

Амаль 20 незалежных грамадска-палітычных газетаў былі выключаныя з дзяржаўных сістэмаў распаўсюду 11 год таму, напярэдадні прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Тады РУП "Белпошта" адмовілася ўключаць выданні ў падпісныя каталогі, а прадпрыемствы "Саюздруку" – прадаваць іх праз газетныя шапікі.

Скасаванне дамоваў з рэдакцыямі незалежных газетаў матывавалі, як правіла, эканамічнай немэтазгоднасцю. У выніку гэтых дзеянняў каля паловы з закранутых перыядычных выданняў спынілі сваё існаванне ў друкаваным выглядзе. У 2008 годзе на хвалі пацяплення адносінаў паміж Беларуссю і ЕС "Белпошта" і прадпрыемствы "Саюздруку" аднавілі супрацу з газетамі "Народная Воля" і "Наша Ніва". Пры гэтым шмат якія дыскрымінаваныя выданні спынілі свой выхад да 2017 года.

# ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў СФЕРЫ СМІ

## Крымінальныя справы

**У 2017 г.** працягвалася справа выкладчыка БДУІР **Юрыя Паўлаўца**, школьнага вартаўніка **Дзмітрыя Алімкіна**, рэдактара часопіса «Новая эканоміка» **Сяргея Шыптэнкі**, якія былі затрыманыя ў снежні 2016 г. Яны публікавалі свае артыкулы, у якіх выказваліся пра нежыццяздольнасць беларускай мовы і несамастойнасць беларусаў як этнасу, а таксама крытыкавалі беларускія ўлады за недастатковую лаяльнасць інтарэсам Расіі, на расійскім сайце regnum.ru

10 лютага Следчы камітэт паведаміў газеце "Наша ніва", што яны не знаходзяцца ў статусе падазраваных – ім прад'яўлена абвінавачанне па першай частцы артыкула 130 Крымінальнага кодэкса ("Распальванне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай альбо іншай сацыяльнай варожасці або розні").

6 мая на двух з арыштаваных аўтараў– Юрыя Паўлаўца і Сяргея Шыптэнку – завялі новыя крымінальныя справы па ч. 1 артыкула 233 Крымінальнага кодэкса ("Незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць").

30 жніўня афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Юлія Ганчарова паведаміла, што ўсім тром аўтарам "Рэгнума" выстаўлена абвінавачванне па ч. 3 арт. 130 Крымінальнага кодэкса, якая прадугледжвае адказнасць за распальванне расавай, нацыянальнай або рэлігійнай варожасці або розні, якое было здзейснена групай асобаў.

У гэтай крымінальнай справе быў яшчэ адзін фігурант – **Юрый Баранчык,** супрацоўнік "Рэгнума", які жыве ў Маскве. У дачыненні да яго была завочна прымененая мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту, ён быў абвешчаны ў міжнародны вышук. Завочна яму было выстаўлена абвінавачванне па ч. 3 арт. 130 Крымінальнага кодэкса.

*2 лютага 2018 г. суд прызнаў Юрыя Паўлаўца, Дзмітрыя Алімкіна і Сяргея Шыптэнку вінаватымі ў парушэнні часткі 3 артыкула 130 Крымінальнага кодэкса – распальванне варожасці паводле нацыянальнай прыналежнасці у складзе групы. Яны былі пакараныя 5 гадамі пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на 3 гады (да ўступлення прысуду ў сілу асуджаныя павінныя знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе). Ад абвінachання ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці дзяржаўнае абвінавачанне адмовілася ў ходзе судовага працэсу.*

**25 кастрычніка** супрацоўнік "Украінскага радыё" **Паўло Шаройка** быў затрыманы ў Мінску па падазрэнні ў шпіянажы. Па словах жонкі Шаройкі, беларускія праваахоўнікі абшукалі яго кватэру перад арыштам.

Навіна аб затрыманні Шаройкі ў Беларусі распаўсюдзілася 17 лістапада дзякуючы Зурабу Аласаніі, старшыні Нацыянальнай грамадскай тэлерадыёкампаніі Украіны, і генеральнаму прадзюсару "Украінскага радыё" Дмытро Хоркіну.

20 лістапада Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь правёў брыфінг пра затрыманне Паўла Шарокі ў Мінску. На ім афіцыйны прадстаўнік КДБ Дзмітрый Пабяржын паведаміў, што 25 кастрычніка «пры правядзенні агентурнай акцыі з доказамі злачынства быў затрыманы кадравы

супрацоўнік Галоўнага ўпраўленьня выведкі Міністэрства абароны Ўкраіны Паўло Шаройка». Паводле яго слоў, падчас вобшуку былі знойдзеныя копіі «данясенняў разведкі». Паведамлялася, што супраць Шаройкі ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 358 Крымінальнага кодэкса (шпіянаж). Міністэрства абароны Украіны аспрэчыла заяву беларускага КДБ, адмаўляючы, што журналіст быў афіцэрам ўкраінскай выведкі.

27 лістапада афіцыйны прадстаўнік КДБ паведаміў, што грамадзяніну Ўкраіны Паўло Шаройку выстаўленае абвінавачванне ў шпіянажы.

# Іншыя судовыя справы (акрамя адміністрацыйнага пераследу)

**21 сакавіка** судздзя Цэнтральнага суду Гомеля Ірына Званко спыніла вытворчасць па справе праз непадсуднасць паводле пазову начальніка Лоеўскага райаддзелу міліцыі Ўладзімера Бухаўцова супраць журналіста-фрылансэра **Кастуся Жукоўскага** і тэлеканала «Белсат» Польскага агульнанацыянальнага тэлебачаньня аб абароне гонару, годнасьці й дзелавой рэпутацыі і кампэнсацыі маральнай шкоды. Падпалкоўніку Бухаўцову суд прапанаваў звярнуцца з пазовам у кампетэнтны польскі суд па месцы знаходжання польскага нацыянальнага тэлебачання, у склад якога ўваходзіць спадарожнікавы тэлеканал «Белсат».

Пазоўнік патрабаваў прызнаць відэаматэрыялы Жукоўскага абразлівымі для яго гонару і дзелавой рэпутацыі і спагнаць з адказчыка грашовую кампенсацыю ў памеры 2 тысячы рублёў з пералічэннем іх на рахунак дома сямейнага тыпу ў Лоеве. Уладзімір Бухаўцоў прад'явіў Жукоўскаму і тэлеканалу «Белсат» пазоў за відэасюжэты «Міліцыянты б'юць журналістаў, каб прыхаваць вынікі эканамічнага заняпаду» і «Будзённае жыццё рэгіёну Лоеў», але не здолеў канкрэтна сфармуляваць, якія выразы ці словы прынізілі яго гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю. Міліцыянт, у прыватнасьці, спасылаўся на выраблены Жукоўскім відэаматэрыял, у якім паказаныя кадры з яго удзелам і тытрамі «МУС – гестапа»? Пры гэтым у сюжэце жыхары Лоева распавядалі пра беззаконне, якое дазвалялі сабе мясцовыя міліцыянты ў дачыненні да герояў ды іхніх знаёмых.

**16 мая** Калегія па цывільных справах Гомельскага абласнога суда адхіліла касацыйную скаргу начальніка Лоеўскага РАУСа Уладзіміра Бухаўцова.

**11 кастрычніка** Эканамічны суд Гомельскай вобласці завершыў разгляд пазову абласной дзяржаўнай газеты "Гомельская праўда" да архітэктара, сябры ГА "БАЖ" **Сяргея Ляпіна**. Суддзя Алена Каражанец прызнала здымак архітэктара, на якім ён трымае газету над сметніцай, абразлівым для выдання. Ляпін абавязаны сплаціць судовы збор і выдаткі газеты на адваката – агулам звыш 1 800 рублёў.

Здымак з'явіўся на сайце «Сильные новости» ў траўні ў адказ на шэраг здзеклівых матэрыялаў у афіцыйнай газеце на адрас самога Сяргея Ляпіна, у тым ліку і артыкул Рамана Старавойтава *«Ляпнул раз, ляпнул два… Всё неймётся»*. У ім «архітэктар Ляпін і сатаварышы» абвінавачваюцца ў хлусні, правакацыях і нават "парушэньні нацыянальнай бяспекі».

Сяргей Ляпін падаваў у суд Чыгуначнага раёна на "Гомельскую праўду" і яе аўтара Рамана Старавойтава за абразу гонару і годнасці, але 6 ліпеня суд адхіліў пазоў.

Неўзабаве рэдакцыя газеты сама звярнулася ў Эканамічны суд па абарону дзелавой рэпутацыі. Адказчыкамі напачатку былі двое: сайт «Сильные новости» і архітэктар Ляпін. **28 ліпеня** ўладальнік сайта пайшоў на замірэнне з газетай. Сяргей Ляпін, у сваю чаргу, адмовіўся падпісваць тэкст замірэнчага пагаднення і такім чынам застаўся адзіным адказчыкам.

Падчас разгляду справы першы намеснік рэдактара "Гомельскай праўды" Вячаслаў Мінкоў з адвакаткай прасілі прызнаць абразлівымі здымак у сукупнасці са словамі Ляпіна: "нядаўні артыкул выйшаў за межы прыстойнасці" і "абвінавачванні журналіста з'яўляюцца домысламі". Маўляў, такім чынам адказчык падвяргае сумневу захаванне выданнем нормаў прафесійнай этыкі журналістаў і маралі, прынцыпаў праўдзівасці ды законнасці інфармацыі. Апроч таго, як матываваў пазоў Мінкоў, здымак выклікаў хвалю негатыўных каментароў у сацыяльнай сетцы на адрас газеты, стварэнне дэматыватара і негатыўнага хэштэга, звязаных з выданнем.

Адказчык Ляпін патлумачыў суду, што выкінуў газету ў сметніцу, каб такім чынам выказаць сваё меркаванне да публікацыі ў газеце, якая ў здзеклівай форме выкарыстоўвала ягонае прозвішча і нават западозрыла яго "ў парушэнні нацыянальнай бяспекі". На яго думку, серыя публікацый супраць яго была выклікана тым, што ён у сваіх публічных допісах крытыкаваў сумніўныя праекты пашырэння гарадскіх вуліц са знішчэннем зялёных насаджэнняў, а таксама негатыўна адазваўся на дазвол гарадскіх уладаў пабудаваць шматпавярховы жылы дом на былых габрэйскіх могілках.

**7 жніўня** Эканамічны суд Брэсцкай вобласці абавязаў блогераў Сяргея Пятрухіна і актывіста Руху "За Свабоду" Дзяніса Турчаняка выдаліць сюжэт-расследванне пад назвай "Дынамаўская афера", змешчаны на YouTube у лютым 2017 г. Відэаролік тычыўся лёсу зямельнага ўчастка, які быў прадастаўлены Брэсцкім гарвыканкамам у арэнду УП "Дынама Цэнтр". Аўтары расследвання выказалі меркаванне, што гэтае прадпрыемства атрымала зямлю ў брэсцкім мікрараёне Кавалёва бескаштоўна праз ценявыя схемы. Цяпер на згаданым участку пабудавана крама гандлёвай сеткі "Рублёўскі", а дынамаўская структура дачынення да яго не мае. Аўтары відэароліка лічылі, што УП "Дынама Цэнтр" распарадзілася зямельным участкам, атрыманым на ільготных умовах, няслушна, нерацыянальна і насуперак першапачатковым мэтам.

Вытворча-гандлёвае унітарнае прадпрыемства "Дынама Цэнтр", заснавальнікам якога з'яўляецца Беларускае фізкультурна-спартыўнае таварыства "Дынама", не пагадзілася з высновамі блогераў і накіравала заяву ў суд. У пазове было выказана патрабаванне забараніць распаўсюд відэароліка, абавязаць аўтараў абвергнуць пададзеныя ў сюжэце звесткі, а таксама кампенсаваць выдаткі па аплаце дзяржаўнай пошліны. Падчас разбіральніцтва былі прадстаўленыя дадатковыя дакументы, да якіх адказчыкі не мелі доступу падчас свайго расследвання.

У сваім рашэнні намеснік старшыні Эканамічнага суда Брэсцкай вобласці Ніна Дзяркач абвесціла, што інфармацыя ў расследаванні Сяргея Пятрухіна і Дзяніса Турчаняка не адпаведае рэчаіснасці, ганіць дзелавую рэпутацыю УП "Дынама Цэнтр", і забараніла аўтарам відэароліка яго распаўсюд "на любых рэсурсах сеткі Інтэрнэт". Акрамя таго, Пятрухін і Турчаняк мусяць змясціць абвяржэнне згодна з тэкстам, прапанаваным ініцыятарам пазову.

## Затрыманні журналістаў, адміністрацыйны пераслед

**19 студзеня** суд Цэнтральнага раёна Гомеля пастанавіў спыніць адміністрацыйную справу супраць мясцовага журналіста-фрылансера **Кастуся Жукоўскага**, якога вінавацілі ў абразе кіраўніцы спраў Акцябрскага райвыканкама Валянціны Шлапаковай. Суддзя Алеся Осіпава патлумачыла, што прыкметамі абразы, паводле артыкула 9.3 КаАП, з'яўляецца непрыстойная форма – лаянка, нецэнзурныя выказванні. У пратаколе не згадваецца, якія менавіта выказванні былі ўжытыя журналістам. Сведка Аляксей Атрошчанка і супрацоўнік міліцыі Дайнэка сышліся ў меркаваннях, што ў дачыненні да Шлапаковай Жукоўскі ўжыў выраз: "Вы – раба".

Інцыдэнт у Акцябрскім здарыўся ў сярэдзіне снежня. Жукоўскі разам з калегам **Аляксеем Атрошчанкам** здымаў будынак райвыканкама. Падчас здымкаў да яго і падыйшла жанчына з прэтэнзіямі, запатрабавала пасведчанне і акрэдытацыю.

**19 студзеня** ў Гродзенскім абласным суддзе была пакінутая без задавальнення скарга гродзенскіх сябраў ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" **Віктара Сазонава і Уладзіміра Хільмановіча**. Скаргу разглядаў суддзя Уладзімір Янкоўскі, які нават не выслухаў журналістаў і амаль адразу прыняў рашэнне пакінуць ў сіле пастанову Ленінскага суда Гродна.

*У снежні 2016 г. журналісты былі пакараныя вялікімі штрафамі за ўдзел ў традыцыйнай акцыі "Дзень памяці паўстанцаў 1863 года", што цягам больш чым 20 гадоў праходзіць ў гарадскім пасёлку Свіслач.*

**1 сакавіка** ў судзе Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці была разгледжана адміністрацыйная справа ў адносінах да блогера **Андрэя Павука** з г.п. Акцябрскі Гомельскай вобласці, які быў абвінавачаны ў дробным хуліганстве. Суддзя **Уладзімір Васілеўскі** не ўбачыў у абвінавачаннях міліцыянтаў складу адміністрацыйнага парушэння, і накіраваў пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні ў аддзяленне міліцыі на дапрацоўку.

Блогер Андрэй Павук шырока вядомы дзякуючы сваім сатырычным відэа ў сацыяльных сетках, крытыкуючым мясцовае кіраўніцтва. Супрацоўнік міліцыі Андрэй Арцюшка склаў супраць яго адміністрацыйны пратакол на падставе заявы старшыні Любанскага сельскага савета Акцябрскага раёну Тамары Кароль, у якой сцвярджалася, што 18 студзеня **Павук** "беспрычынна, з хуліганскіх памкненняў, назойліва, неаднаразова прыставаў да Тамары Кароль, патрабаваў ад яе адказаў на пытанні, якія не датычыліся яе службовых абавязкаў". Як расказаў Андрэй Павук, ён хацеў даведацца, з якой прычыны Тамара Кароль арганізавала збор подпісаў бацькоў школьнікаў, каб яго не бралі на работу ў Любанскую школу з-за яго "дзейнасці", і чаму адзін подпіс аказаўся падроблены. Тамары Кароль не спадабалася, што размова запісваецца на відэа. Яна выклікала міліцыю, а пасля напісала заяву пра "занудлівыя прыставанні".

**1 лютага Віталь Сізоў**, **рэпарцёр украінскага Грамадскага тэлебачання Данбасу,** быў затрыманы міліцыяй Мінска з-за таго, што ён знаходзіцца ў расійскім спісе непажаданых асобаў. Журналіст, які меў акрэдытацыю Міністэрства замежных спраў Беларусі, прыбыў у Мінск, каб асвятляць сустрэчу Трохбаковай кантактнай групы па Данбасе. У 2.45 раніцы міліцыя ўвайшла ў пакой у гатэлі, дзе спынілася здымачная група, і сілком забрала Сізова ў аддзяленне міліцыі. Ён быў вызвалены каля 7 гадзін раніцы.

> *«Тут мне распавялі, што Расейская Фэдэрацыя забараніла мне ўезд на яе тэрыторыю да 2021 года. Беларусь і Расея зьяўляюцца саюзнай дзяржавай, таму забарона на ўезд распаўсюджваецца і на Беларусь"*, паведаміў украінскі журналіст svaboda.org.

Міліцыянты не змаглі растлумачыць прычыны забароны, але рэкамендавалі Сізову пакінуць Беларусь цягам 24 гадзін.

**10 сакавіка** пасля акцыі пратэсту "недармаедаў" ў Маладзечне Мінскай вобласці разам з апазіцыйнымі палітыкамі быў затрыманы карэспандэнт інфармацыйнай кампаніі БелаПАН **Сяргей Каралевіч**. Каралевіча даставілі ў аддзяленне міліцыі, дзе ўзялі пісьмовыя тлумачэнні адносна працы на акцыі. Прыкладна праз 2 гадзіны пасля затрымання Сяргея Каралевіча вызвалілі.

**12 сакавіка** відэа-блогеры **Сяргей Пятрухін і Дзмітрый Гарбуноў** былі затрыманыя міліцыяй ў Брэсце напярэдадні акцыі пратэсту супраць прэзідэнцкага "дэкрэта аб дармаедах", якую яны мелі намер асвятляць. У аддзяленні міліцыі супраць іх былі складзеныя пратаколы за заклікі да ўдзелу ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

**14 сакавіка** суд Ленінскага раёна г. Брэста прысудзіў абодвум блогерам па 15 сутак арышту ў адпаведнасці з арт. 23.34 КаАП.

**12 сакавіка** журналістка Радыё Свабода **Галіна Абакунчык**, фатограф інфармацыйнага агенцтва БелаПАН **Андрэй Шаўлюга**, блогерка **Анастасія Пілюгіна,** журналісты-фрылансеры, якія працуюць

для тэлеканала "Белсат" **Аляксандр Баразенка і Кацярына Бахвалава** былі затрыманыя міліцыяй пасля "маршу недармаедаў" у Воршы, які яны асвятлялі.

Галіна Абакунчык, Андрэй Шаўлюга, Анастасія Пілюгіна былі затрыманыя пасля акцыі разам з удзельнікамі пратэсту і дастаўленыя ў Аршанскі РУУС. Здымачная група «Белсату» накіравалася ў РУУС, каб узяць камэнтар у затрыманага апазіцыйнага актывіста. Там Аляксандр Баразенка і Кацярына Бахвалава былі затрыманыя міліцыяй падчас жывога эфіру. Супраць Галіны Абакунчык і Кацярыны Бахвалавай былі складзеныя адміністрацыйныя пратаколы. Ноч напярэдадні суда журналісткі правялі ў ізалятары часовага ўтрымання.

**13 сакавіка** Суд Аршанскага раёна пакараў Кацярыну Бахвалаву штрафам у памеры 30 базавых велічынь, прысуджаным на падставе двух артыкулаў Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях – арт. 22.9 за работу без акрэдытацыі і арт. 23.4 за непадпарадкаванне міліцыі. У той самы дзень суддзя Мікалай Драгуноў пастанавіў пакараць Галіну Абакунчык штрафам у памеры 575 рублёў за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

**12 красавіка** суддзя Віцебскага абласнога суда Ірына Смалякова пакінула пастанову Аршанскага суда ад 13 сакавіка ў адносінах да Кацярыны Бахвалавай без зменаў. У той жа дзень суддзя Віцебскага абласнога суда Святлана Іванова не задаволіла касацыйную скаргу Галіны Абакунчык, пакінуўшы пастанову Аршанскага райсуда ў сіле.

**12 сакавіка** пяцёра журналістаў былі затрыманыя на вакзале ў Оршы Віцебскай вобласці супрацоўнікамі Аршанскага УУС на транспарце. Гэта **Адар'я Гуштын** (БелаПАН), **Сяргей Гудзілін** (газета "Наша ніва"), **Сяржук Серабро** (сайт "Народные новости Витебска"), **Таццяна Матвеева і Ігар Матвееў** (інтэрнэт-партал tut.by). Усе яны ехалі, каб асвятляць так званы "марш недармаедаў". Журналістаў даставілі ў будынак вакзала, праверылі дакументы і адпусцілі толькі пасля пачатку акцыі. У выніку журналісты не паспелі выканаць сваю працу.

**12 сакавіка** журналісты-фрылансеры **Сяргей Русецкі і Уладзімір Лунёў**, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам "Белсат", былі затрыманыя, калі накіроўваліся асвятляць акцыю пратэста "недармаедаў". Іх аўтамабіль спынілі супрацоўнікі ДАІ быццам бы для праверкі дакументаў. Журналісты знаходзіліся ў Віцебскім РУУС каля палутара гадзін, пакуль іх машыну быццам бы правяралі на факт угону. Пазней журналістаў адпусцілі.

**12 сакавіка** чацвёра журналістаў, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам "Белсат", былі затрыманыя ДАІ каля горада Рагачова Гомельскай вобласці. **Яўген Меркіс, Сяргей Кавалёў, Вольга Чайцыц і Андрэй Козел** ехалі туды асвятляць акцыю пратэсту супраць дэкрэту аб "дармаедах". ДАІ спыніла дзве іхнія машыны. Адна з іх быццам бы падазравалася ва ўдзеле ў ДТЗ, у другой быццам былі праблемы з дакументамі. Журналістаў каля гадзіны пратрымалі на трасе, пасля чаго адпусцілі.

**13 сакавіка** відэаблогер **Максім Філіповіч**, які вёў прамую трансляцыю з некалькіх акцыяў пратэстаў, быў завочна асуджаны да 13 дзён адміністрацыйнага арышту за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, "маршы недармаедаў" у Гомелі. Пазней увечары ён быў арыштаваны ў доме бацькоў з дапамогай АМАПу. Філіповіч абвясціў галадоўку ў турме.

**23 сакавіка**, у той час як блогер адбываў адміністрацыйны арышт, гомельскі суддзя прысудзіў яму яшчэ пяць дзён за ўдзел ў акцыях пратэсту "недармаедаў" у Брэсце.

**31 сакавіка** Філіповіч быў асуджаны яшчэ да сямі дзён у турме за ўдзел у такой самай акцыі пратэсту ў Маладзечне; гэта стала вядома у той дзень, калі ён павінен быў вызваліцца пасля 18-дзённага пазбаўлення волі.

**16 сакавіка Дзіяна Серадзюк**, журналістка сайта EuroBelarus.info, абвінавачаная ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве па арт. 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, была апраўданая ў судзе Першамайскага раёна Мінска. Яна асвятляла пратэст супраць будаўніцтва офіснага цэнтра ў Курапатах, месцы масавых пахаванняў людзей, якія былі забітыя ў сталінскія часы, і была абвінавачана разам з актывістамі, якія разбілі лагер непадалёк. Падчас разгляду справы журналісткі трое сведкаў, работнікі будаўнічай кампаніі, заявілі, што іх паказанні ў міліцэйскім пратаколе не адпавядаюць таму, што яны сказалі супрацоўнікам міліцыі. Дзякуючы гэтым заявам аб фальсіфікацыі з боку міліцыі Дзіяна Серадзюк была апраўданая.

**16 сакавіка** ў адносінах да гомельскага журналіста **Анатоля Гатоўчыца** быў складзены адміністрацыйны пратакол за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі, якую той асвятляў (арт 23.34 КаАП). Пратакол быў накіраваны ў суд, але разгляду справы не адбылося.

**17 сакавіка** гомельская журналістка-фрылансер **Ларыса Шчыракова** была аштрафаваная на 161 рубель за "ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве" (артыкул 23.34 КаАП). Справу разгледала суддзя Раіса Кавалевіч, старшыня Гомельскага раённага суда. 12 сакавіка журналістка здымала акцыю пратэста "недармаедаў" у Рагачове. Мясцовы супрацоўнік міліцыі В. Радчанка склаў у адносінах да яе пратакол, адзначыўшы, што Шчыракова "неаднаразова трапляла ў поле зроку праваахоўных органаў у звязку са сваёй апазіцыйнай дзейнасцю".

**18 сакавіка** журналіст Белсат ТВ **Алесь Ляўчук** і аператар **Мілана Харытонава** былі затрыманыя ў Кобрыне Брэсцкай вобласці, куды ехалі з Брэста, каб асвятляць акцыю пратэсту. Аўтамабіль, у якім ехалі журналісты, у цэнтры горада спыніла ДАІ, пасля чаго невядомыя людзі ў цывільным выцягнулі Ляўчука і Харытонаву з машыны і даставілі ў Кобрынскі РАУС.

> *"Нас спыніла машына ДАІ, вельмі жорстка нас выцягнулі з машыны, збівалі па дарозе, доўга нічога не казалі. Нас затрымліваў аддзел па барацьбе з наркотыкамі. Калі ў Міланы на тэлефоне пабачылі Пагоню, сказалі, што нас трэба забіваць. Сказалі, што журналісты распальваюць сітуацыю ў краіне, што дзякуючы камерам прыходзяць людзі. Сказалі, што калі далей так пойдзе, то яны будуць нас страляць", – расказаў Алесь Ляўчук.*

У аддзяленні міліцыі Кобрына журналісты ўтрымліваліся больш за тры гадзіны. Міліцыянты канфіскавалі іх зламанае абсталяванне. Былі складзеныя пратаколы за непадпарадкаванне міліцыі і працу без акрэдытацыі МЗС Беларусі.

**13 красавіка** суддзя суда Кобрынскага раёна Вадзім Здановіч пастанавіў пакараць Алеся Ляўчука штрафам у памеры 1380 рублёў за незаконную вытворчасць і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (арт. 22.9 КаАП) і непадпарадкаванне міліцыі (арт. 23.4 КаАП), а Мілану Харытонаву – штрафам у памеры 575 рублёў у адпаведнасці з тымі ж артыкуламі Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Такім чынам, агулам сям'я брэсцкіх журналістаў мусіла сплаціць у дзяржаўны бюджэт 1 955 рублёў (больш за 1 000 долараў).

**22 чэрвеня**, нягледзячы на тое, што падчас разгляду касацыйнай скаргі Алесь Ляўчук і Мілана Харытонава прадставілі дадатковыя доказы (у тым ліку відэазапіс, калі да іх падыходзіў адзін з кіраўнікоў кобрынскай міліцыі і правяраў дакументы), суддзя абласнога суда Аляксандр Саўчук не знайшоў падставаў для адмены рашэння суда Кобрынскага раёна і скаргу адхіліў.

**13 снежня** стала вядома, што Вярхоўны суд не задаволіў скаргу Алеся Ляўчука і Міланы Харытонавай.

18 сакавіка па дарозе з Віцебску ў Наваполацак у Шумілінскім раёне супрацоўнікі ДАІ затрымалі аўтамабіль зь незалежнымі журналістамі Сяргеем Русецкім, Уладзімірам Лунёвым і Аленай Сцяпанавай. Спачатку іх абвінавацілі ў парушэнні правілаў дарожнага руху і адпусцілі. Пазней іх зноў затрымалі ўжо ў Полацкім раёне. Калі незалежных віцебскіх журналістаў прывезлі ў Полацкае РУУС быццам бы для праверкі, ці не перабітыя ў іх нумары на кузаве аўтамабіля, высветлілася, што іх падазраюць ў нападзе 1 сакавіка на аддзяленне банка ў вёсцы Фарынава Полацкага раёна – маўляў, тады рабаўнікі таксама былі на аўтамабілі чорнага колеру. Старшы ўпаўнаважаны крымінальнага вышуку Полацкага РУУС маёр Максім Крацянок апытаў журналістаў і праверыў па базе. Алену Сьцяпанаву, Сяргея Русецкага і Ўладзімера Лунёва адпусцілі.

18 сакавіка Ларыса Шчыракова і Кастусь Жукоўскі, незалежныя журналісты з Гомеля, якія супрацоўнічаюць з “Белсатам”, былі затрыманыя супрацоўнікамі ДАІ ў Рэчыцы, калі яны накіроўваліся ў Мазыр, каб асвятляць запланаваны мітынг. Ларыса Шчыракова была затрымана па падазрэнні ў крадзяжы. Міліцыя прадставіла ёй апісанне, якому адпавядала яе знешнасць. Ларыса Шчыракова і Кастусь Жукоўскі правялі ў міліцыі больш за тры гадзіны, а затым былі адпушчаныя.

18 сакавіка ў Барысаве журналісты Вольга Чайчыц і Сяргей Кавалёў, якія супрацоўнічаюць з “Белсатам”, былі затрыманыя падчас анлайн-трансляцыі ў цэнтры горада і дастаўленыя ў аддзяленне міліцыі Барысава. Яны прыбылі туды, каб асвятляць магчымы пратэст, абвешчаны анархісцкімі актывістамі. Журналісты не былі праінфармаваныя пра прычыны затрымання; міліцэйскі аўтамабіль не меў ніякіх адметных прыкмет. Пазней здымачная група была вызваленая.

12 мая суд Дзяржынскага раёна прысудзіў Вользе Чайчыц 920 рублёў штрафу па арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі) за інтэрнэт-трансляцыю падчас яе затрымання ў Барысаве.

22 сакавіка Вольга Давыдава і Любоў Лунёва, якія супрацоўнічаюць з “Белсатам” былі затрыманыя ў Мінску. Яны прысутнічалі на сустрэчы з журналістамі, якую праводзіла грамадзянская актывістка Наста Дашкевіч, муж якой быў затрыманы на некалькі гадзін раней. Потым яны паехалі ў Ленінскі РУУС, дзе мог знаходзіцца арыштаваны. Журналісты і Наста Дашкевіч былі затрыманыя там за "здымкі ў рэжымным аб’екце", у іх забралі смартфоны. Пасля вобшуку і апытання яны былі вызваленыя.

22 сакавіка раніцай у Пінску быў затрыманы журналіст тэлеканала "Белсат" Віктар Ярашук. Журналіста спынілі на вуліцы два чалавекі ў цывільным і прапанавалі яму прайсці ў будынак міліцыі нібыта для размовы. Там на Ярашука быў складзены адміністрацыйны пратакол паводле артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (парушэнне парадку вырабу і распаўсюду прадукцыі СМІ). Супрацоўнікі міліцыі даставілі журналіста ў суд Пінскага раёна, які аператыўна разгледзеў справу, прызнаў Віктара Ярашука вінаватым ды пакараў яго штрафам у памеры 920 беларускіх рублёў.

22 сакавіка ў Добрушы Гомельскай вобласці міліцыя затрымала журналістаў-фрылансераў, якія супрацоўнічаюць з “Белсатам” – Кастуся Жукоўскага і Андрэя Толчына, калі яны здымалі мясцовую папяровую фабрыку. Журналістаў завезлі ў райаддзел міліцыі, але трымалі там нядоўга. Пасля праверкі дакументаў іх адвезлі назад да папяровай фабрыкі.

23 сакавіка суд Савецкага раёна Гомеля прызнаў Яўгена Меркіса вінаватым ў парушэнні арт. 22.9 ч. 2 КаАП РБ ("незаконны выраб і/або распаўсюд прадукцыі СМІ") і пакараў яго штрафам у памеры 690 рублёў. Яўген Меркіс вёў наўпроставы рэпартаж для тэлеканала “Белсат” падчас акцыі пратэсту ў Рагачове 12 сакавіка. 14 сакавіка ў РУУС Савецкага раёна Гомеля следчая К. С. Палякова склала на Меркіса пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.

**23 сакавіка** суд Маладзечанскага раёна прызнаў рэдактарку сайта Kraj.by **Святлану Цішко** вінаватай ў парушэнні парадку арганізацыі масавых мерапрыемстваў (арт. 23.34 КаАП) за тое, што сваім артыкулам яна нібыта заклікала людзей да ўдзелу ў несанкцыянаванай акцыі. Журналістку пакаралі штрафам у памеры 460 рублёў.

**23 сакавіка** ў Бабруйску міліцыя затрымала журналістаў газеты "Бобруйский курьер" **Ганну Дусь** і **Віктара Качана,** якія збіраліся асвятляць працэс над грамадзянскай актывісткай Галінай Смірновай. Да іх (і да іншых грамадзян, што там былі) падышоў начальнік аддзялення аховы правапарадку і прафілактыкі УУС Бабруйскага гарвыканкама падпалкоўнік міліцыі Сяргей Рудзько, які запатрабаваў ад усіх праехаць з ім у пракуратуру. Калі Віктар Качан патлумачыў, што ён – журналіст, і тут знаходзіцца з працоўнымі задачамі, Сяргей Рудзько перагарадзіў яму шлях і ў катэгарычнай форме паўтарыў сваё патрабаванне. Разумеючы, што на іх могуць скласьці адміністрацыйны пратакол за "непадпарадкаванне», Віктар Качан і Ганна Дусь прайшлі ў міліцэйскі мікрааўтобус, які ў той час прыехаў у двор суда. Усіх затрыманых, у тым ліку журналістаў, даставілі ў бабруйскую пракуратуру. Журналістаў пратрымалі там каля гадзіны, пасля чаго вызвалілі.

Знаходзячыся ў пракуратуры, Віктар Качан напісаў скаргу на незаконныя дзеянні Сяргея Рудзько. Як аказалася пазней, яго заяву адправілі для разгляду ў Бабруйскі міжраённы аддзел Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь. **7 красавіка** стала вядома, што ў выніку праверкі не было выяўлена супрацьпраўных дзеянняў з боку супрацоўніка міліцыі.

**24 сакавіка** журналіст тэлеканала "Белсат" **Алесь Залеўскі**, карэспандэтка "Радыё Свабода" **Галіна Абакунчык**, акрэдытаваная журналістка выдання «Новое Время» (Украіна) **Хрысціна Бердынскіх** і журналіст «France24» (Францыя) **Гулівер Крэйн** былі затрыманы ў Мінску ў месцы збору дабрачыннай дапамогі для арыштаваных пасля ранейшых акцый пратэсту. Супрацоўнікі міліцыі прыйшлі ў офіс партыі «Зялёныя», усім, хто там быў, загадалі ісці ў машыны і адвезлі ў аддзяленне міліцыі. Журналісты былі адпушчаныя пасля ўмяшальніцтва прэс-сакратара мінскай міліцыі.

**24 сакавіка** быў затрыманы сябра ГА "БАЖ" **Віктар Стукаў** пасля вобшуку ў офісе Свабоднага прафсаюза беларускага. Ён быў абвінавачаны ў дробным хуліганстве (арт. 17.1 КаАП) і аштрафаваны на 460 рублёў.

**25 сакавіка** ў час традыцыйнай акцыі дэмакратычных сіл, прысвечанай Дню волі, адбыліся масавыя затрыманні журналістаў. Усяго ў Мінску ў гэты дзень былі затрыманыя 34 журналісты:

1. Зінаіда Цімошак
2. Алесь Залеўскі
3. Станіслаў Івашкевіч
4. Дзяніс Івашын
5. Антон Карлінер
6. Уладзімір Грыдзін
7. Арцём Шрайбман
8. Аляксандр Баразенка
9. Любоў Лунёва
10. Дзмітрый Буянаў
11. Захар Шчарбакоў
12. Дзмітрый Карэнка
13. Ірына Козлік
14. Дар'я Пуцейка
15. Ганна Рыбчынская

16. Андрэй Ляўкоўскі
17. Генадзь Барбарыч
18. Ірына Арахоўская
19. Арцём Гарбацэвіч
20. Вольга Букоўская
21. Ганна Бадзяка
22. Таццяна Гаўрыльчык
23. Марыя Радэ
24. Мікіта Яраш
25. Андрэй Дубінін
26. Ольга Морва (Францыя)
27. Кацярына Бахвалава
28. Вольга Давыдава
29. Ігар Ільяш
30. Сяргей Казлоўскі
31. Філіп Уорвик (Вялікабрытанія)
32. Сяргей Кійко
33. Аляксандр Хаўкін
34. Марына Кастылянчанка

Да вечара суботы 25 сакавіка былі вызвалены ўсе журналісты апроч тых, якія засталіся пад вартай да суда.

**27 сакавіка** прайшоў шэраг судоў над затрыманымі. **Аляксандр Баразенка** быў прысуджаны да 15 сутак адміністрацыйнага арышту за дробнае хуліганства – выкарыстанне нецэнзурных словаў. **Дзяніс Івашын** быў пакараны арыштам на 5 сутак за нібыта ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве (арт. 23.34 КаАП). **Сяргей Кійко** асуджаны на 12 сутак арышту па арт. 17.1 КаАП (дробнае хуліганства). **Марына Кастылянчанка** была асуджана на 15 сутак арышту за непадпарадкаванне міліцыі і ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. **Аляксандр Хаўкін**, абвінавачаны ва удзеле ў несанкцыянаванай акцыі (23.34 КаАП), атрымаў штраф у памеры 575 рублёў.

Дзяніс Івашын абскардзіў ва ўсіх інстанцыях пастанову суда Фрунзенскага раёна Мінска, у час разгляду якой высветлілася, што ў справе быў заменены пратакол затрымання і ў новым пратаколе фігуравалі іншае месца затрымання і сведкі. Няглядзячы на гэта, пастанова суда першай інстанцыі была пакінута ў сіле.

**25 сакавіка** ў Віцебску былі гвалтоўна затрыманы двое тэлежурналістаў – **Вольга Чайчыц і Андрусь Козел**, а таксама **Арцём Сізінцаў**, журналіст "Радыё Рацыя".

Вольгу Чайчыц і Андруся Козела заштурхнулі ў машыну. Супрацоўнікі АМАПу не назвалі падставы для затрымання, забралі абсталяванне. Журналісты былі дастаўленыя ў Кастрычніцкі РАУС; затым вызваленыя.

Арцём Сізінцаў утрымліваўся да суда. Ён быў асуджаны на дзесяць сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

**25 сакавіка** ў 10 гадзін раніцы журналісты-фрылансеры **Марына Драбышэўская, Марыя Булавінская і Яўген Меркіс** прыйшлі па пазовах у міліцыю Цэнтральнага раёна Гомеля. Размовы і складанні пратаколаў доўжыліся акурат да заканчэння акцыі, прысвечанай Дню волі. Яўгена

Меркіса і Марыю Булавінскую абвінавацілі ў незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ, што прадугледжвае артыкул 22.9 Кодэксу аб адміністрацыйных парушэннях.

Журналістку-фрылансерку **Ларысу Шчыракову** таксама выклікалі ў міліцыю менавіта 25 сакавіка. Пасля таго, як яна не прыйшла, яе затрымалі на нядоўгі час.

Былі затрыманыя міліцыяй і праз пэўны час адпушчаныя журналісты, што працавалі непасрэдна падчас святкавання Дня Волі ў Гомелі – карэспандэнты **Алена Германовіч** (БелаПАН) і **Іван Ярывановіч** (TUT.by).

**26 сакавіка** 17 журналістаў былі затрыманыя міліцыяй у шэрагу гарадоў Беларусі, каб папярэдзіць асвятленне акцый салідарнасці з пратэстоўцамі, якіх затрымлівалі і збівалі днём раней, у Дзень Волі.

У Мінску былі затрыманыя журналісты "Белсата" **Аляксей Мінчонак і Алесь Залеўскі**. Яны былі дастаўленыя ў Цэнтральнае РУУС і знаходзіліся там на працягу трох гадзін, затым іх адпусцілі. Блогер **Раман Пратасевіч** таксама быў затрыманы і правёў ноч у зняволенні. 27 сакавіка Пратасевіч быў прысуджаны да дзесяці дзён арышту за хуліганства.

У Бабруйску былі затрыманыя рэдактар "Бобруйского курьера" **Анатоль Санаценка**, журналісты "Белсата" **Андрэй Шобін і Віктар Масаловіч**, журналісты газеты "Вечерний Бобруйск" **Святлана Галоўкіна і Аляксандр Чугуеў**, журналіст газеты "Камерцыйны кур'ер" **Дзмітрый Суслаў** і блогер **Дзяніс Носаў**. Правёўшы некалькі гадзін у аддзяленні міліцыі, усе яны былі вызваленыя.

У Гомелі карэспандэнт БелаПАН **Алена Германовіч** была затрыманая, а затым вызваленая.

У Віцебску былі затрыманыя тры члены БАЖ: **Павел Левінаў, Леанід Свецік, Канстанцін Мардзвінцаў**. Іх абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве па арт. 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, яны правялі ноч пад вартай.

**27 сакавіка** 2017 года **Леанід Свецік і Канстанцін Мардзвінцаў** былі прысуджаныя да 15 сутак адміністрацыйнага арышту. **Павел Левінаў** быў шпіталізаваны з-за гіпертанічнага крызу. **17 красавіка** ён быў завочна прысуджаны да 15 сутак арышту суддзёй суда Кастрычніцкага раёна г. Віцебска Інай Грабоўскай. **28 красавіка** Віцебскі абласны суд, разледзеўшы скаргу Левінава, унёс папраўкі. Суддзя Ірына Смалякова палічыла патрэбным адлічыць ад 15-ці сутак 10 гадзін — той тэрмін, на працягу якога праваабаронца быў пад вартай пасля затрымання.

У Оршы быў затрыманы рэдактар сайта orsha.eu **Ігар Казмерчак**. У міліцыі супраць яго быў складзены пратакол за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

У Брэсце рэдактар сайта "Віртуальны Брэст" **Андрэй Кухарчык** быў затрыманы і дастаўлены ў Ленінскі РАУС, потым вызвалены.

У Гомелі **Ларысу Шчыракову** затрымалі побач з домам супрацоўнікі ДАІ. Супраць яе былі складзеныя 7 пратаколаў аб адміністрацыйным правапарушэнні: тры з іх – за незаконную вытворчасць прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (арт. 22.9 КаАП), два – за няяўку ў міліцыю па позве (арт. 23.4 КаАП), за парушэнне правілаў добраўпарадкавання населеных пунктаў (арт. 21.14 КаАП), за парушэнне правілаў утрымання хатніх жывёл.

12 красавіка суддзя Тамара Застаўнецкая прысудзіла гомельскай журналістцы штрафы, якія ў суме склалі 920 рублёў. Яе справа слухалася ў судзе Гомельскага раёна. Суддзя разгледзела чатыры пратаколы супраць Шчыраковай – два за незаконную вытворчасць прадукцыі сродкаў масавай

інфармацыі (за стрым з мітынгу, які зладзілі на Дзень Волі ўдзельнікі "Маршу недармаедаў-2" і рэпартаж пад назвай "Беларускія бальніцы ставяць вопыты над пацыентамі", якія былі паказаныя тэлеканалам "Белсат") і два за няяўку ў аддзяленне міліцыі, куды яе выклікалі ў выходныя дні 25 і 26 сакавіка). Пратаколы на журналістку складалі супрацоўнікі Гомельскага РАУС Ігар Новак і Рустам Цітоў.

28 сакавіка Ленінскім РАУС горада Брэста быў затрыманы рэдактар партала «Рэальны Брэст» (realbrest.by) Дзяніс Марук. Марук рабіў рэпартажы з акцый «недармаедаў». На адной з іх ён паказаў сярэдні палец чалавеку ў цывільным, які здымаў яго на камеру. Калі яго абвінавацілі ў дробным хуліганстве за непрыстойны жэст на адрас супрацоўніка міліцыі, ён не пагадзіўся з абвінавачваннем, якое патрабавалі падпісаць. Пасля гэтага, як сцвярджае Марук, яго пачалі жорстка збіваць. «Каб захаваць свае відэаматэрыялы я засунуў флэшку ў рот. Мяне пачалі біць яшчэ больш жорстка, аб падлогу, па нагах, па нырках. Засунулі нейкую брудную лыжку ў рот, спрабуючы выцягнуць флэшку, парвалі ўсю вопратку», - расказаў журналіст. Маруку выпісалі штраф за дробнае хуліганства ў памеры 46 рублёў. Дзяніс Марук звярнуўся са скаргамі ў мясцовую пракуратуру і Следчы камітэт. Заява рэдактара амаль тры месяцы разглядалася ў Следчым камітэце, пакуль адтуль не прыйшоў адказ, што падстаў заводзіць справу няма. З адказу вынікала, што міліцыянты дзейнічалі ў межах закона, а ўсталяваныя ў Ленінскім РАУС відэакамеры не зафіксавалі фактаў збіцця журналіста.

**31 сакавіка** два офісы тэлеканала **"Белсат"** у Мінску былі абшуканы міліцыяй; абсталяванне, якое там знаходзілася, было забрана. Аператар "Белсата" **Алесь Любянчук** быў затрыманы ў адным з офісаў і дастаўлены ў Першамайскі РУУС; ён правёў там каля пяці гадзін. У аддзяленні міліцыі ён быў апытаны і абвінавачаны ў нецэнзурнай лаянцы ў адпаведнасці з артыкулам 17.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

19 красавіка Суд Першамайскага раёна горада Мінска прысудзіў Алесю Любенчуку штраф у памеры 575 рублёў за дробнае хуліганства - выкарыстанне непрыстойных словаў у аддзяленні міліцыі.

Супрацоўнікі міліцыі мелі ордэр на ператрус ад пракуратуры. Міліцыя паведаміла, што ператрус звязаны са справай па факце незаконнага выкарыстання таварнага знака «Белсат». Прадстаўнікі "Белсата" ўпэўненыя, што прычынай рэпрэсій супраць іхняга канала стала актыўнае асвятленне антыўрадавых пратэстаў.

Справа з-за таварнага знака «Белсат» доўжылася амаль пяць гадоў, і, верагодна, была ініцыяваная ўладамі. Уладальнік кампаніі «БЕЛСАТплюс" Андрэй Белякоў звярнуўся з заявай аб тым, што польскі тэлеканал "Белсат" шкодзіць інтарэсам яго кампаніі і ён паспрабаваў праз суд забараніць каналу выкарыстанне гандлёвай маркі «Белсат». Вярхоўны суд спярша адмовіў у задавальненні гэтых патрабаванняў. Але пазней, у 2015 г., ён перагледзеў сваё рашэнне і заклікаў польскія ўлады забараніць тэлеканалу Белсат выкарыстанне яго таварнага знака, так як польскі тэлеканал не падлягае беларускай юрысдыкцыі.

**5 красавіка** Суд Оршы і Аршанскага раёна прызнаў вінаватым рэдактара сайта orsha.eu **Ігара Казмерчака** ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі пратэсту паводле часткі 1 арт. 23.34 КаАП. Ён апублікаваў на сваім сайце матэрыял пра "марш недармаедаў" у Оршы, які адбыўся 12 сакавіка. 5 красавіка Казмерчаку патэлефанавалі з міліцыі і папрасілі зайсці нібыта для размовы. Аднак там яго пасадзілі ў машыну і павезлі ў суд. Суддзя Юлія Хаткевіч пастанавіла аштрафаваць Ігара Казмерчака на суму 575 рублёў.

7 красавіка Суд Чыгуначнага раёна Гомеля праз sms-паведамленне апавясціў журналістку-фрылансера Марыю Булавінскую, што прызначыны на 7 красавіка разгляд адміністрацыйнай справы за незаконны выраб прадукцыі СМІ (паводле артыкулу 22.9 КаАП) не адбудзецца: справа накіравана ў Чыгуначны РАУС на дапрацоўку. Адміністрацыйны пратакол у дачыненні да журналісткі быў складзены на падставе апытання, якое зрабіў намеснік начальніка аддзелу аховы грамадскага парадку Чыгуначнага РАУС капітан міліцыі Варатніцкі. Яно тычылася відэасюжэта над назваю "Як беларускія жанчыны змагаюцца з Лукашэнкам", паказанага на тэлеканале "Белсат" 8 сакавіка.

10 красавіка журналісты-фрылансеры Кастусь Жукоўскі і Андрэй Толчын былі аштрафаваны прыкладна на 920 і 460 рублёў адпаведна Судом Светлагорскага раёна. Судзьдзя Руслан Царук пастанавіў, што Жукоўскі і Толчын парушылі арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконная вытворчасць і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі), калі знялі рэпартаж пра лекараў, якія хадзілі па кватэрах ў Светлагорску ў пошуках «дармаедаў».

13 красавіка Ларыса Шчыракова была аштрафавана на 690 рублёў суддзёй Рэчыцкага раённага суда Святланай Пырх за незаконную вытворчасць прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (артыкул 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях). Журналістка была пакарана за інтэрв'юраванне людзей для рэпартажа аб жудасных умовах жыцця на вуліцы Войкава, знятага ў Рэчыцы і паказанага "Белсатам".

19 красавіка Яўген Меркіс, які супрацоўнічае з "Белсатам", быў аштрафаваны на 115 рублёў судзе Савецкага раёна Гомеля. Ён быў асуджаны за два выпадкі так званай «незаконнай вытворчасці прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі» ў вдпаведнасці з арт. 22.9 КаАП. У прыватнасці, Меркіс асвятляў мітынг "недармаедаў" у Пінску і браў інтэрв'ю ў дэпутата парламента Ігара Марзалюка падчас пратэстаў у Магілёве.

30 красавіка гомельскі журналіст Яўген Меркіс быў затрыманы па дарозе дадому і дастаўлены ў Навабеліцкі РАУС, а затым у ізалятар часовага ўтрымання. Міліцыянты заявілі, што ён лаяўся ў грамадскіх месцах. Меркіс планаваў асвятляць санкцыянаваны мітынг, што актывісты апазіцыі Гомеля збіраліся правесці 1 траўня.

2 мая 2017 года суддзя Сяргей Новікаў прызнаў журналіста вінаватым у дробным хуліганстве і прысудзіў яму 115 рублёў штрафу.

1 мая блогер Зміцер Гарбуноў быў затрыманы міліцыяй у Брэсце, калі ён выходзіў са сваёй кватэры разам з грамадзянскім актывістам Аляксандрам Кабанавым. Гэта абдылося за паўгадзіны да пачатку акцыі «чыстых аркушаў», якую ён збіраўся асвятляць. Затрыманых даставілі ў Ленінскі РАУС, на іх склалі пратаколы за непадпарадкаванне міліцыі і змясцілі ў ізалятар да суда.

3 мая суддзя суда Ленінскага раёна г. Брэста Дзмітрый Шурын прызнаў блогера вінаватым і прысудзіў яму 10 сутак арышту.

1 мая журналістка Марына Драбышэўская была затрыманая пасля таго, як вяла прамы эфір з санкцыянаванага мітынгу ў Гомелі. Яна правяла ў Чыгуначным аддзяленні міліцыі каля 2,5 гадзін. Больш чым гадзіну міліцыя не тлумачыла ёй прычыну затрымання. Затым быў складзены пратакол; яна была абвінавачаная ў супрацоўніцтве з "Белсатам" без акрэдытацыі ў адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. 17 мая адміністрацыйная справа ў адносінах да яе была спынена.

**1 мая** журналістка-фрылансер **Ларыса Шчыракова** правяла анлайн-трансляцыю на “Белсаце” з мітынгу, санкцыянаванага гомельскімі ўладамі. Мясцовая міліцыя затрымала яе і склала пратакол за «незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі».

19 мая суддзя суда Рэчыцкага раёна Аляксандр Сусла пакараў журналістку штрафам у памеры 805 рублёў за парушэнне арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

**4 мая** Мінскі гарадскі суд аштрафаваў завочна незалежную журналістку **Кацярыну Андрэеву** на суму 1035 рублёў за незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (артыкул 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях). Пастанова была прынята суддзёй Фёдаравай. Журналістка была аштрафавана за працу на “Белсат” у час “марша недармаедаў» у Брэсце 5 сакавіка.

**5 мая** ў судзе Савецкага раёна г. Гомеля была разгледжаная адміністрацыйная справа паводле артыкулу 22.9 КаАП у дачыненьні да журналіста-фрылансера **Яўгена Меркіса**. Судздзя Алена Шайн аштрафавала яго на 920 рублёў за тое, што 31 сакавіка Меркіс вёў стрым меркаванага вызваленьня з ізалятару часовага ўтрыманьня гомельскага блогера Максіма Філіповіча. Меркіс патлумачыў, што вёў анлайн-трансьляцыю ў сацыяльную сетку.

**6 мая** суд Цэнтральнага раёна Гомеля палічыў журналіста-фрылансера **Кастуся Жукоўскага** вінаватым у незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях) і аштрафаваў яго на 690 рублёў. Жукоўскі быў асуджаны па чатырох адміністрацыйных пратаколах адразу.

**10 мая** ў Буда-Кашалёве міліцыя заблакавала на дзве гадзіны аўтамабіль журналіста-фрылансэра **Кастуся Жукоўскага** без аніякіх тлумачэнняў. Як расказаў Жукоўскі, ён прыехаў, каб высветліць эканамічны стан мясцовых прадпрыемстваў і спыніўся каля масласырзавода. Неўзабаве туды пад’ехалі на міліцэйскім аўтамабілі супрацоўнікі мясцовай міліцыі. Яны паставілі сваю машыну так, каб немагчыма было выехаць са стаянкі. Праз дзве гадзіны машына з’ехала. Хто і навошта выклікаў міліцыю невядома.

**20 мая** глыбоцкія журналісты **Таццяна Смоткіна і Зміцер Лупач** былі прызнаныя вінаватымі ў незаконнай вытворчасці і распаўсюджванні прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (артыкул 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях). Суддзя Людміла Вашчанка вынесла пастанову аштрафаваць Лупача на суму 690 рублёў і Смоткіну – на суму 575 рублёў. Падставай для справы стала відэа, паказанае на “Белсаце”, пра дом № 142 па вуліцы Леніна ў Глыбокім, які мае патрэбу ў капітальным рамонце. Лупач здымаў відэа, і Смоткіна трапіла на яго, паколькі яна была жыхаркай гэтага дома. Гэты рэпартаж выклікаў вялікі водгук. Справа была ініцыявана мясцовым аддзяленнем КДБ, якое распарадзілася даведацца, як інфармацыя пра дом трапіла ў замежны сродак масавай інфармацыі.

14 чэрвеня Віцебскі абласны суд скаргі Змітра Лупача і Таццяны Смоткінай на пастанову Глыбоцкага суда, якая была пакінута без зменаў.

**20 мая** Віцебскі гарадскі суд пастанавіў аштрафаваць незалежнага журналіста **Сяргея Русецкага** за супрацоўніцтва з “Белсатам” на 460 рублёў у адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Справа разглядалася суддзёй Алесяй Жарыкавай. Сяргей Русецкі быў абвінавачаны ў працы на замежныя СМІ без акрэдытацыі. Ён браў інтэрв’ю ў людзей падчас святкавання Дня Волі ў Віцебску 25 сакавіка 2017 года.

> *«Абсурднасць у тым, што матэрыял, які я збіраў не выйшаў у эфір, бо менскія падзеі «перабілі» віцебскія…», – зазначыў* журналіст.

**22 мая** гродзенскі журналіст **Павел Мажэйка** быў абвінавачаны ў працы на замежны СМІ без акрэдытацыі ў адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях і аштрафаваны на суму 529 рублёў. Працэс адбываўся ў судзе Ленінскага раёна горада Гродна, справу разглядала суддзя Алена Пятрова. Справа тычылася 25 сакавіка, калі Павел Мажэйка ў Дзень Волі на дазволеным мітынгу ў Гародні праводзіў каментаванне. Доказамі былі фотаздымкі, апублікаваныя ў Twitter журналіста.

**2 чэрвеня** вядомы Гомельскі блогер **Максім Філіповіч** быў абвінавачаны ў адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях у незаконнай вытворчасці і распаўсюдзе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі. 17 відэа і стрымаў на розныя вострыя тэмы былі пералічаныя ў матэрыялах справы супраць Філіповіча. Усе яны былі размешчаны блогерам на сваім YouTube канале "Гарантий НЕТ", які мае больш за 24000 падпісчыкаў. У пратаколе сцвярджалася: *«З улікам росту папулярнасьці свайго канала Максім Філіповіч фактычна падмяняе сабою дзяржаўныя СМІ, у тым ліку і ў фармаваньні грамадзкай думкі сярод грамадзян».*

13 чэрвеня Максім Філіповіч даведаўся, што суд Савецкага раёна горада Гомеля адмовіўся разглядаць яго справу і адправіў пратакол на дапрацоўку назад у міліцыю.

**14 чэрвеня** суд Мазырскага раёна аштрафаваў гомельскіх журналістаў-фрылансераў **Кастуся Жукоўскага** і **Андрэя Толчына** за незаконны выраб прадукцыі СМІ на 1150 і 460 беларускіх рублёў адпаведна. Падставай для складаньня міліцыяй адміністрацыйнага пратаколу паводле артыкулу 22.9 КаАП стаў сюжэт, паказаны на «Белсаце» 4 траўня, з выкарыстаньнем фрагмэнтаў відэа, знятага Жукоўскім і Толчыным. Ён называўся «Жыхары Мазыру падтрымалі мужчыну, які парэзаў міліцыянтаў».

**15 чэрвеня** на журналістку **Аліну Скрабунову** супрацоўнікамі аддзела ўнутраных спраў Адміністрацыі Кастрычніцкага раёна г. Магілёва быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні ў адпаведнасці з арт. 22.9 КаАП. Яе абвінавацілі ў незаконнай падрыхтоўцы матэрыялаў для тэлеканала "Белсат". 22 чэрвеня стала вядома, што суд Кастрычніцкага раёна г. Магілёва вярнуў справу Скрабуновай назад у мясцовы райаддзел міліцыі, дзе яна была спыненая з-за сканчэння тэрміну прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці.

**20 чэрвеня** міліцыя горада Лоева Гомельскай вобласці распачала справу аб адміністрацыйным парушэнні ў адносінах да гомельскага фрылансера **Кастуся Жукоўскага**. Ён быў абвінавачаны ў незаконнай вытворчасці і распаўсюдзе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі ў адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за яго відэарэпартаж, трансляваны "Белсатам" 14 чэрвеня. У ім была паказана гісторыя жыхара вёскі Старадубка ў Лоеўскім раёне. Спасылаючыся на небяспеку распаўсюджвання чумы свіней, мясцовыя ўлады загадалі забіць яго свінняў без выплаты абяцанай кампенсацыі. 23 жніўня суддзя суда Лоеўскага раёна Іван Цалкоў спыніў справу Жукоўскага ў сувязі са сканчэннем тэрміну прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці.

**30 чэрвеня** ў Магілёве суддзя суда Ленінскага раёна Алена Літвіна прысудзіла журналісту **Уладзіміру Лапцэвічу**, пазаштатнаму карэспандэнту інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, 1035 рублёў штрафу за сем публікацый у тыднёвіку «Ніва», які выдаецца беларусамі Польшчы. Супрацоўнікі міліцыі з Ленінскага РАУС Магілева абвінавацілі Лапцэвіча ў парушэнні арт. 22.9 КаАП Рэспублікі Беларусь (незаконны выраб і/або распаўсюд прадукцыі СМІ). Яны склалі на Лапцэвіча сем асобных пратаколаў аб адміністрацыйным правапарушэнні за артыкулы, якія былі апублікаваныя за апошнія два месяцы. На думку міліцыянтаў, парушэннем з'яўлялася ўжо тое, што Лапцэвіч публікаваўся ў "Ніве" без акрэдытацыі ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі. 15 жніўня

суддзя Магілёўскага абласнога суду Ігар Зямцоў пакінуў бяз зменаў пастанову суддзі Алены Літвіной.

**10 ліпеня** быў складзены адміністрацыйны пратакол у адносінах да шырока вядомага гомельскага блогера **Максіма Філіповіча**. Ён быў выкліканы ў міліцыю і абвінавачаны ў незаконнай вытворчасці і распаўсюдзе прадукцыі масавай інфармацыі (арт. 22.9 КаАП), таму што не зарэгістраваў свой канал на YouTube у якасці сродку масавай інфармацыі. **21 ліпеня** суд спыніў справу супраць Філіповіча з-за адсутнасці складу злачынства.

**11 ліпеня** суддзя суда Светлагорскага раёна Руслан Царук прызнаў гомельскага журналіста-фрылансэра **Кастуся Жукоўскага** вінаватым у незаконным вырабе прадукцыі СМІ без акрэдытацыі (арт. 22.9 КаАП) для тэлеканалу «Белсат» і пакараў яго штрафам у памеры каля 1150 рублёў. Пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні склаў старшы ўчастковы інспэктар Крук за відэасюжэт «173 дні да пуску цэлюлёзнага камбінату ў Сьветлагорску. Жыхары супраць», які паказалі на тэлеканале «Белсат».

**21 ліпеня** супрацоўнікі ДАІ спынілі машыну незалежнага журналіста **Кастуся Жукоўскага** і прымусова даставілі яго ў аддзяленне міліцыі ў Гомелі. Інцыдэнт адбыўся пасля таго, як Кастусь Жукоўскі прысутнічаў на судзе над блогерам Максімам Філіповічам.

Супрацоўнікі ДАІ затрымалі Кастуся Жукоўскага па дарозе дадому, прапанавалі ехаць ў пастарунак нібыта з той нагоды, што ён не з'яўляўся па позвах. Паміж журналістам і прадстаўнікамі ДАІ адбыўся канфлікт, пад'ехаў другі экіпаж паставых. Супрацоўнікі спачатку прыкавалі Жукоўскага кайданкамі да дрэва, а пасля гвалтам заштурхалі ў аўтамабіль. Затым яго завезлі ў пастарунак, дзе адразу склалі чатыры пратаколы. Жукоўскага пазбавілі правоў кіроўцы на адзін год за парушэнне ПДР і аштрафавалі за супраціў праваахоўным органам на суму 480 рублёў.

> *«Гэта палітычны пераслед за тое, што ў мяне была інфармацыя, якая ім не падабалася. Яны хочуць пазбавіць мяне магчымасці працаваць і перасоўвацца па Беларусі», – распавёў Кастусь Жукоўскі.*

**3 жніўня** суддзя Уладзімір Пракапенка суда Буда-Кашалёўскага раёна аштрафаваў завочна журналіста **Кастуся Жукоўскага** на суму 805 рублёў за працу без акрэдытацыі для тэлеканала "Белсат". 9 жніўня Жукоўскі атрымаў ліст з суду, з якога стала вядома, што існуе пастанова суда паводле пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні за парушэнне арт. 22.9 КоАП, складзенага лейтэнантам Аляксандрам Антоненкам. Справа тычылася інтэрв'юіравання жыхароў вёскі Краснагорск у Буда-Кашалёўскім раёне, якія скардзіліся на невыносны пах ад свінафермы.

**9 жніўня** суддзя суда Гомельскага раёна Андрэй Сусла пакараў **Ларысу Шчыракову** за супрацу з "Белсатам" без акрэдытацыі (арт. 22.9 КаАП) штрафам у памеры 805 рублёў. У ліпені міліцыя склала на Шчыракову пратакол за відэасюжэт пра намер уладаў знесці больш за паўсотні жылых дамоў у Гомелі, які выклікаў абурэнне ў шмат каго з жыхароў.

**24 жніўня** суддзя Сяргей Піпко суда Лідскага раёна Гродзенскай вобласці прысудзіў 460 рублёў штрафу журналісту-фрылансеру **Станіславу Івашкевічу** за незаконную вытворчасць і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях). Пратакол быў складзены міліцыяй за відэарэпартаж аб вёсцы недалёка ад Ліды, якая тоне ў гноі ад мясцовай свінафермы. Рэпартаж трансляваўся па тэлеканалу "Белсат" 30 чэрвеня 2017 г. і выклікаў шырокі грамадскі рэзананс.

**25 жніўня** ў Мінску судзілі адразу 4 незалежных журналістаў: **Кацярыну Андрэеву (Бахвалаву), Сяргея Кавалёва, Алеся Сіліча і Марыю Арцыбашаву**. Іх пакаралі штрафамі на агульную суму

эквівалентную 1700 еўра за працу без акрэдытацыі на карысць тэлеканала “Белсат”. Міліцыя абвінаваціла журналістаў у парушэнні арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконная вытворчасць і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі). Судзіў усіх чатырох журналістаў суддзя Іван Касцян. Андрэева (Бахвалава) і Кавалёў былі пакараныя штрафамі ў памеры 1150 рублёў кожны; Арцыбашава і Сіліч – 805 рублёў кожны.

**7 верасня** суддзя суда Акцябрскага раёна горада Магілёва Наталля Ясенка пастанавіла аштрафаваць на 460 рублёў журналістку-фрылансера **Аліну Скрабунову**. Журналістка была пакараная ў адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь (незаконная вытворчасць і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі) за супрацоўніцтва з тэлеканалам “Белсат”. Справа тычылася відэа, паказанага ў эфіры 15 ліпеня, пра дабрачынную акцыю ў Магілёўскім таварыстве абароны жывёл.

**8 верасня** ў адносінах да журналісткі **Марыны Драбышэўскай** з Гомеля быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні ў адпаведнасці з арт. 22.9 КаАП, аднак суду над ёй не адбылося.

**11 верасня** суддзя суда Жлобінскікага раёна Валянціна Сапонава пакарала гомельскага журналіста-фрылансера **Кастуся Жукоўскага** штрафам у памеры 575 рублёў за незаконны выраб прадукцыі СМІ без акрэдытацыі для тэлеканала “Белсат”. Падставай для пакарання стаў адміністрацыйны пратакол, складзены ўчастковым інспектарам Міхаілам Патапенкам паводле артыкула 22.9 КаАП. Жукоўскі нібыта незаконна праводзіў “інтэрв'юіраванне жыхароў вёскі Пірэвічы”, а пасля гэтыя інтэрв'ю былі выкарыстаныя тэлеканалам “Белсат”.

**27 верасня** суддзя суда Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці Андрэй Багданік прызнаў незалежных журналістаў **Кастуся Жукоўскага і Андрэя Толчына** вінаватымі ў незаконнай вытворчасці і распаўсюдзе прадукцыі сродку масавай інфармацыі для тэлеканала “Белсат” у адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Штраф у памеры 920 рублёў быў накладзены на кожнага з іх. Журналісты былі абвінавачаныя ў вытворчасці відэа пра занядбаныя жылыя дамы ў былым ваенным гарадку Мышанка.

**27 верасня** гомельскі незалежны журналіст **Кастусь Жукоўскі** быў прысуджаны да штрафу ў памеры 575 рублёў (суддзя Сапонава, Жлобінскі раённы суд Гомельскай вобласці) ў адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Журналіст быў пакараны за тое, што, не маючы акрэдытацыі, зняў для “Белсата” відэа пра дрэнную працу мясцовых камунальных службаў.

На наступны дзень, **28 верасня**, гэтая ж суддзя пакарала гомельскага блогера **Андрэя Толчына** штрафам у памеры 690 рублёў за падрыхтоўку таго ж сюжэта.

**3 кастрычніка** суддзя Гомельскага раённага суда Тамара Застаўнецкая прысудзіла штраф у памеры 1150 рублёў журналісту-фрылансеру **Кастусю Жукоўскаму** за супрацоўніцтва з тэлеканалам “Белсат”. Журналіст быў пакараны паводле двух пратаколаў, складзеных міліцыяй за парушэнні арт. 22.9 КаАП – падрыхтоўку відэасюжэтаў пра падзеж свіней у Гомельскім раёне, якія выйшлі на “Белсаце”.

**3 кастрычніка** адміністрацыйныя справы журналістаў **Любові Лунёвай і Зміцера Краўчука** былі разгледжаныя ў Мінску. Суд вырашыў пакараць здымачную групу штрафамі ў памеры 690 рублёў за працу на “Белсат” без акрэдытацыі. Журналісты былі прызначаныя сведкамі адзін супраць аднаго ў ходзе судовага працэсу. Раней, **19 верасня**, міліцыя склала ў адносінах да іх пратаколы ў адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за тое, што **29 жніўня**

журналісты здымалі сход бацькоў, якім абвясцілі аб закрыцці школы за тры тыдні да пачатку новага навучальнага году. Школа была адной з лепшых у перапоўненым раёне Мінска – Шабанах. Як паведаміла Лунёва, журналісты былі запрошаныя бацькамі, якія былі абураныя закрыццём.

**4 кастрычніка** суддзя суда Гомельскага раёна Вольга Фядосава аштрафавала журналістку-фрылансера **Ларысу Шчыракову** на 805 рублёў за супрацу з замежным СМІ без акрэдытацыі. Шчыракова была прызнаная вінаватай у незаконным вырабе прадукцыі СМІ для тэлеканала "Белсат" паводле артыкула 22.9 КаАП за відэасюжэт пра гаротны стан аўтарынку "Асаўцы".

У гэты ж дзень, **4 кастрычніка**, суддзя суда Чыгуначнага раёну Гомеля Яўген Шаршнёў разгледзеў іншую адміністрацыйную справу **Ларысы Шчыраковай**. У пратаколе, які быў складзены ўчастковым інспэктарам Чыгуначнага РАУС Яўгенам Нерушавым, сцвярджалася, што нібыта **9 жніўня** Шчыракова «ажыццявіла публікацыю відэасюжэту на сайце каналу "Белсат" у праграме "Аб'ектыў" з правядзеньнем інтэрв'юіравання грамадзян па вуліцы Цімафеенкі ў Гомлі». Аднак за гэты дзень на сайце «Белсату» не з'явілася адпаведных матэр'ялаў. Суддзя вырашыў адправіць адміністрацыйную справу на дапрацоўку ў міліцыю.

**5 кастрычніка** суд Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці аштрафаваў незалежную журналістку з Гомеля **Ларысу Шчыракову** на 690 рублёў. На яе склалі пратакол за відэасюжэт, які выйшаў на тэлеканале "Белсат". У ім асвятляўся візіт лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры Святланы Алексіевіч у вёску Капаткевічы, дзе пісьменніца сустракалася са сваімі аднакласнікамі. Шчыракову пакаралі "за незаконны выраб прадукцыі для замежнага СМІ без акрэдытацыі".

**6 кастрычніка** глыбоцкага журналіста **Змітра Лупача** пакаралі штрафам у 690 рублёў за супрацу з тэлеканалам "Белсат". Суддзя суда Глыбоцкага раёна Андрэй Тарасевіч прызнаў журналіста вінаватым у парушэнні артыкулу 22.9 КаАП. Адміністрацыйную справу супраць журналіста распачаў старшы інспектар мясцовага РАУС Сяргей Цырбан за інтэрв'ю пра вайсковыя вучэнні. **25 кастрычніка** на пасяджэнні суда ў Віцебску скаргу журналіста на пастанову глыбоцкага суддзі адхіліла суддзя Святлана Іванова.

**10 кастрычніка** аператар "Белсата" **Алесь Баразенка** быў прызнаны вінаватым у незаконным выкарыстанні таварнага знака "Белсат". Суддзя Анастасія Папко пастанавіла аштрафаваць яго на суму 920 рублёў, а таксама канфіскаваць відэаабсталяванне, якое раней было вынята і ў журналіста, і падчас вобшукаў у офісах "Белсата".

**25 сакавіка** Баразенка быў арыштаваны ў час прамога эфіру з маршу падчас святкавання Дня Волі ў Мінску. Ён быў абвінавачаны ў дробным хуліганстве і прысуджаны да 15 дзён адміністрацыйнага арышту. У гэты ж час было вынята абсталяванне з офісаў "Белсата".Налепкі з лагатыпам «Белсат» на вынятым абсталяванні леглі ў аснову справы Баразенкі з-за таварнага знака. Аднак, па словах рэпарцёра, налепкі з'явіліся на яго камеры пасля таго, як яе забрала міліцыя. Шэраг сведкаў пацвердзілі заяву Баразенкі пра тое, што на яго абсталяванні да канфіскацыі не было налепак «Белсат».

**14 кастрычніка** журналістка **Ірына Арахоўская** была затрыманая разам з іншымі наведвальнікамі хард-рок канцэрта ў Мінску. Каля 18.00, неўзабаве пасля пачатку канцэрту, у залу, дзе было каля 100 чалавек, уварваліся супрацоўнікі АМАП. Яны пачалі крычаць, класці прысутных на падлогу тварам уніз. Арахоўскую кінулі на падлогу і ціснулі нагой, трымалі за валасы, выбівалі з рук тэлефон. Потым журналістку каля гадзіны пратрымалі ў нязручнай позе тварам да сцяны з паднятымі рукамі і шырока расстаўленымі нагамі, не называючы прычыну для гэтага і пагражаючы адправіць у РАУС. Вызвалілі журналістку каля 19.00.

**19 кастрычніка** суд Чыгуначнага раёна г. Гомеля пакараў журналістку-фрылансера **Ларысу Шчыракову** штрафам у памеры 575 рублёў у адпаведнасці з арт. 23.34 КаАП. Пратакол за ўдзел ў несанкцыянаваным пікеце на Ларысу Шчыракову быў складзены, калі 28 верасня 2017 г. яна прыйшла на свой суд за супрацу без акрэдытацыі з "Белсатам" з таблічкаю на шыі з надпісам "Я – нячэсны журналіст". Суддзя Яўген Шаршнёў палічыў, што Ларыса Шчыракова правяла ў судзе несанкцыянаваны пікет. Разам з журналісткай за ўдзел у пікеце асудзілі грамадскіх актывістаў Уладзімера Няпомняшчых, Барыса Анікеева і Віктара Рубцова, якія прыйшлі падтрымаць Шчыракову. Усе яны былі пакараныя адміністрацыйным арыштам на 5 сутак.

**20 кастрычніка Валерыя Уласік** была прызнаная вінаватай у незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ і аштрафаваная на 690 рублёў. Журналістку судзілі у Ленінскім раённым судзе Мінску за яе рэпартаж, у якім абмяркоўвалася шчыльнасць забудовы ў адным з раёнаў Мінска, паказаны тэлеканалам "Белсат" 24 жніўня.

**30 кастрычніка** суд Кастрычніцкага раёна г. Мінска наклаў буйныя штрафы на чатырох журналістаў, абвінавачаных у незаконнай вытворчасці прадукцыі СМІ (арт. 22.9 КаАП), працы для замежнага сродку масавай інфармацыі без акрэдытацыі (тэлеканала "Белсат"). Суддзя Вікторыя Шабуня аштрафала **Вольгу Чайчыц і Андруся Козела** на суму 1035 рублёў кожнага, **Ганну Аземшу і Алеся Баразенку** -- на 570 рублёў кожнага. Дзмітрый Кротаў, намеснік начальніка аддзела прафілактыкі правапарушэнняў Цэнтральнага РУУС Мінску, даў паказанні супраць фрылансераў у судзе. Ён сцвярджаў, што бачыў іх у момант, калі яны паведамлялі пра пратэстную акцыю на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску 8 верасня. Менавіта Кротаў склаў адміністрацыйныя пратаколы супраць журналістаў.

**30 кастрычніка** ў Барысаве рэдактара **Анатоля Букаса** і журналістку **Вольгу Кунчэўскую з** газеты "Борисовские новости", а таксама журналіста сайта ex-Press.by **Паўла Сляпухіна,** якія асвятлялі несанкцыянаваны пікет з патрабаваннем адстаўкі міністра абароны, прымусова завезлі ў аддзяленне міліцыі. Журналістаў затрымалі разам з удзельнікамі пікета. На спробу адмовіцца ехаць у міліцыю капітан Сяргей Якімовіч задаваў пытанне: "Вы адмаўляецеся падпарадкоўвацца патрабаванням супрацоўніка міліцыі?" Пасля гутарак у РУУС, якія доўжыліся каля гадзіны, журналісты былі адпушчаныя. Па словах Сляпухіна, у яго выдалілі ўсе фотаздымкі, зробленыя падчас пікету.

**30 кастрычніка** фрылансерка **Аліна Скрабунова** была затрыманая трыма міліцыянтамі ў цэнтры Магілёва. У міліцыі маёр Яўген Слаўнікаў паведаміў журналістцы, што ў адносінах да яе былі складзеныя тры адміністрацыйныя пратаколы за незаконную вытворчасць прадукцыі СМІ. Скрабунова была абвінавачаная з-за ўдзелу ў стварэнні трох рэпартажаў для тэлеканала «Белсат».

**2 лістапада** суддзя суда Калінкавіцкага раёна Людміла Севасцьянава пакарала гомельскіх журналістаў-фрылансераў **Кастуся Жукоўскага і Андрэя Толчына** штрафамі – кожнага на суму 920 рублёў. Пакаранне было вынесена на падставе пратаколаў, складзеных капітанам міліцыі Аляксандрам Палтаранам у адпаведнасці з арт. 22.9 КаАП – за незаконны выраб прадукцыі СМІ для польскага спадарожнікавага тэлеканала "Белсат". Справа тычылася відэасюжэта пра закрыццё школы ў вёсцы Каплічы Калінкавіцкага раёна і рэакцыі на гэта бацькоў школьнікаў.

**8 лістапада** журналіст-фрылансер **Зміцер Лупач**, які жыве ў горадзе Глыбокае ў Віцебскай вобласці, быў аштрафаваны прыкладна на суму 800 рублёў за «працу без акрэдытацыі» на "Белсат". Суддзя Андрэй Тарасевіч палічыў Лупача вінаватым у тым, што той падрыхтаваў навінавы сюжэт аб Глыбоцкім малочна-кансервавым заводзе, які трансляваўся па Белсату 20 верасня. Справа была ініцыяваная глыбоцкай міліцыяй, у прыватнасці старшым інспектарам Вадзімам Кучыцам.

**8 лістапада** ў адносінах да гомельскага фрылансера **Кастуся Жукоўскага** быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні ў адпаведнасці з арт. 22.9 КаАП за інтэрв'юіраванне жыхароў г.п. Церахоўка Добрушскага раёна. Журналіст быў абвінавачаны ў незаконнай вытворчасці прадукцыі СМІ, у прыватнасці відэасюжэта, які выйшаў на тэлеканале "Белсат" 19 кастрычніка. **15 снежня** суд Добрушскага раёна спыніў справу Жукоўскага з-за адсутнасці складу адміністрацыйнага правапарушэння.

**14 лістапада** магілёўская журналістка **Аліна Скрабунова** была абвінавачаная ў вытворчасці і распаўсюдзе прадукцыі СМІ без акрэдытацыі і аштрафаваная на 690 рублёў па арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Яе справа была разгледжаная суддзёй Таццянай Касцюк у Ленінскім раённым судзе г. Магілёва. Журналістку судзілі на падставе трох адміністрацыйных пратаколаў адначасова. Усе яны былі складзеныя супрацоўнікам РУУС Ленінскага раёна Яўгенам Слаўнікавым за тры відэа, якія трансляваліся на "Белсаце".

**15 лістапада** незалежная журналістка **Тамара Шчапёткіна** была аштрафаваная на 570 рублёў за працу без акрэдытацыі для "Радыё Рацыя" (Польшча). Такое пакаранне ў судзе Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці абвесціла суддзя Алена Нямкова, якая палічыла Шчапёткіну вінаватай у парушэнні артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ), прызнаўшы доказам відэа, дзе бачна, як Тамара Шчапёткіна трымае ў руках дыктафон і апытвае людзей.

Брэсцкі абласны суд **14 снежня** адхіліў касацыйную скаргу Тамары Шчапёткінай на пастанову суда Бярозаўскага раёна.

**29 лістапада** журналіст-фрылансер **Кастусь Жукоўскі** быў аштрафаваны на 690 рублёў за «працу без акрэдытацыі» ў Гомелі. Суддзя Чыгуначнага раённага суда Яўген Шаршнёў прызначыў штраф за здымкі для "Белсата" відэасюжэта пра дрэнныя ўмовы працы на адным з гомельскіх прадпрыемстваў. Журналіста абвінавацілі ў парушэнні арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

На наступны дзень, **30 лістапада**, калега Жукоўскага **Андрэй Толчын** у тым жа судзе быў аштрафаваны на суму 570 рублёў за тое ж самае відэа. Яго віна была ў тым, што ён трымаў мікрафон, калі Жукоўскі браў інтэрв'ю ў людзей.

**1 снежня** суд Барысаўскага раёна разгледзеў справу рэдактара газеты "Борисовские новости" **Анатоля Букаса**. Суддзя Яўген Манышаў пакараў яго штрафам у памеры 345 рублёў у адпаведнасці з арт. 23.34 КаАП за "парушэнне парадку арганізацыі альбо правядзення масавых мерапрыемстваў". Падставай для адміністрацыйнай справы стала інфармацыя, змешчаная ў артыкуле «Рассерженные люди выйдут на площадь» ад 4 кастрычніка, у якой узгадвалася несанкцыянаваная акцыя "Марш абураных беларусаў 2.0", што мелася адбыцца 21 кастрычніка на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску.

**4 снежня** суд Савецкага раёна г. Мінска прызнаў **Любоў Лунёву і Дзмітрыя Краўчука** вінаватымі ў парушэнні Закона аб СМІ і аштрафаваў журналістаў на суму ў 920 рублёў кожнага. Прычынай складання пратаколаў па арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях у адносінах да Краўчука і Лунёвай стаў іх удзел у стварэнні відэа пра суд над пратэстоўцамі ў Мінску для "Белсата". Яны здымалі як раз каля суда Савецкага раёна. Артыкул 22.9 КаАП устанаўлівае адказнасць за вытворчасць і распаўсюд прадукцыі СМІ. Але відэа, якое стала падставай для суда, на "Белсаце" ніколі не дэманстравалася.

**6 снежня** суд Дзяржынскага раёна прысудзіў журналістцы "Белсату" **Вользе Чайчыц** і аператару **Андрэю Козелу** штраф у памеры 690 рублёў кожнаму. Суддзя Іна Шайко прызнала іх вінаватымі ў незаконнай вытворчасці і распаўсюдзе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі ў адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Напачатку лістапада яны зрабілі відэа для "Белсата" пра канфлікт паміж чыноўнікамі і хворай жанчынай у Дзяржынскім раёне: жанчыне так і не быў выдзелены новы дом, хоць яе цяперашняе жыллё было прызнана непрыдатным для пражывання яшчэ ў 2009 годзе.

**8 снежня** журналістка-фрылансер **Вольга Чайчыц** была аштрафаваная на суму 920 рублёў судом Ленінскага раёна г. Мінска.

У той жа дзень, **8 снежня**, на яе быў накладзены штраф у памеры 690 рублёў судом Першамайскага раёна г. Мінска, які таксама аштрафаваў на тую ж суму аператара **Андруся Козела**, які працаваў разам з ёй. У абодвух выпадках журналісты былі пакараныя за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" у адпаведнасці з артыкулам 22.9 КаАП.

**18 снежня** незалежная журналістка **Вольга Чайчыц** была аштрафаваная разам з аператарам **Сяргеем Кавалёвым** на суму 800 рублёў кожны. Суддзя суда Цэнтральнага раёна г. Мінска Іван Касцян пастанавіў, што журналісты павінны быць пакараныя за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" у адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях: 21 кастрычніка яны вялі стрым з акцыі пратэсту «Марш абураных беларусаў 2.0» у Мінску.

**27 снежня** суд Докшыцкага раёна прызнаў незалежных журналістаў з Глыбокага **Змітра Лупача і Таццяну Смоткіну** вінаватымі ў парушэнні заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі паводле артыкула 22.9 КаАП. Пастановай суддзі Вячаслава Елісеенкі на Смоткіну быў накладзены штраф у памеры 570 рублёў і на Лупача – 920 рублёў. Падставай для пераследу сталі матэрыялы пра збор подпісаў за стварэнне прыпынку хуткаснага цягніка на станцыі Параф'янава ў Докшыцкім раёне, якія выйшлі на "Радыё Рацыя" і тэлеканале "Белсат". Паводле слоў Змітра Лупача, на яго былі заведзеныя ажно дзве адміністрацыйныя справы: не толькі за супрацу з тэлеканалам "Белсат", але і за супрацу з радыё "Рацыя" – з-за таго, што ён трымаў мікрафон, калі Смоткіна запісвала свой рэпартаж.

## Фізічныя замахі ў адносінах да журналістаў

**25 сакавіка** ў час акцыі, прысвечанай Дню волі, адбыліся масавыя затрыманні журналістаў, пры гэтым **Ольга Морва (Францыя), Філіп Уорвік (Вялікабрытанія), Андрэй Дубінін, Валеры Шчукін, Кацярына Бахвалава, Ігар Ільяш і Вольга Давыдава** паведамілі, што былі збітыя міліцыяй. Філіп Уорвік расказаў, што яму не дазволілі патэлефанаваць ў амбасаду, на яго надзелі кайданкі, білі па твары; Уорвік правёў больш за шэсць гадзін у аддзяленні міліцыі.

**19 красавіка** першы сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі (КПБ) **Георій Атаманаў** напаў на прэс-сакратара ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" **Барыса Гарэцкага**. Інцыдэнт адбыўся пасля разгляду ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска пазову гісторыка Ігара Кузняцова аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі супраць КПБ, рэдакцыі газеты "Коммунист Беларуси. Мы и время" і аўтара публікацыі Андрэя Лазуткіна. Пасля судовага працэсу Барыс Гарэцкі, які асвятляў ход працэсу, на вуліцы побач з будынкам суда спрабаваў сфатаграфаваць адказчыкаў. У гэты час Георгій Атаманаў падышоў да Гарэцкага, замахнуўся і на вачах у сведкаў выбіў з яго рук мабільны тэлефон.

Па факце інцыдэнта Барыс Гарэцкі накіраваў пісьмовую заяву ва Упраўленне ўнутраных спраў Ленінскага раёна Мінска. У адказе на яе паведамлялася, што ў дзеяннях Атаманава не было складу адміністрацыйнага правапарушэння.

**6 чэрвеня** журналістам **Мілане Харытонавай і Алесю Ляўчуку**, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам "Белсат", перашкаджалі працаваць супрацоўнікі дзяржаўнага прадпрыемства "Камунальнік" у Брэсце. Калі журналісты высвятлялі, чаму ў горадзе спілоўваюць здаровыя дрэвы, супрацоўнікі «Камунальніка» паводзілі сябе агрэсіўна і спрабавалі вырваць камеру ў **Міланы Харытонавай**. Начальнік аддзелу «Камунальніка» Уладзімір Співак заявіў па тэлефоне Алесю Ляўчуку, што ён не абавязаны ні перад кім даваць справаздачу і не будзе адказваць на пытанні журналіста.

**8 жніўня** журналіст-фрылансер **Кастусь Жукоўскі**, які супрацоўнічае з "Белсатам", сутыкнуўся з чалавекам, верагодна, ахоўнікам, які апрыскаў яго невядомым рэчывам з балончыка. Гэта адбылося ў той час, калі журналіст спрабаваў патрапіць на свінаферму "Добрая хрушка" ў вёсцы Зялёныя Лукі, каб праверыць інфармацыю аб масіўным забоі свінняў, які доўжыўся да таго часу два тыдні і, як мяркуецца, быў выкліканы прыхаванай свіной хваробай. Жукоўскі выклікаў міліцыю і хуткую дапамогу. Журналіст быў дастаўлены ў шпіталь для правядзення тэстаў, у выніку якіх стала вядома, што ён быў атручаны невядомым хімічным рэчывам.

**16 верасня** на канцэрце расійскага гурта "Anacondaz" у клубе "Re: public" ахова сілай вывела фатографа **Івана Дзечканца** з фотапіта – абгароджанай зоны перад сцэнай, дзе ў ліку іншых працуюць фотакарэспандэнты. Прычынай таму стала нібыта адсутнасць акрэдытацыі, якую, па словах фатографа і арганізатараў, ён на самай справе праходзіў. Паводле словаў Дзечканца, ён трапіў у клуб у 19.45 (пачатак канцэрту быў заяўлены на 20.00). Арганізатар спраўдзіла яго прозвішча ў спісе прэсы, паставіла на руку ўльтрафіялетавую пячатку. У час канцэрту дя фатографа падыйшоў ахоўнік і сказаў, што калі ў яго няма бэйджыка, ён павінен выйсці. Калі, па словах фатографа, ён стаў прыбіраць камеру і рушыць у бок выхаду, ахоўнік схапіў яго за інтымнае месца і болевым прыёмам стаў скручваць руку і душыць, і пакуль не вывеў з залы, не адпускаў. Дзечканец расказаў, што ахоўнік ўвесь час спрабаваў выбіць камеру з рук. Пазней каля гардэроба цягнуў то за валасы, то за горла. На выхадзе падыйшлі яшчэ некалькі супрацоўнікаў аховы, якія спрабавалі выбіць з рук камеру і аб'ектыў. Дырэктар клуба "Re: public" Андрэй Старцаў пазней заявіў, што выбачыўся перад Іванам Дзечканцом, з супрацоўнікаў ўзяў тлумачальныя запіскі.

**14 кастрычніка** журналістка **Ірына Арахоўская** была затрыманая разам з іншымі наведвальнікамі хард-рок канцэрта ў Мінску. Каля 18.00, неўзабаве пасля пачатку канцэрту, у залу, дзе было каля 100 чалавек, ўварваліся супрацоўнікі АМАП. Яны пачалі крычаць, класці ўсіх на падлогу тварам уніз. Арахоўскую кінулі на падлогу і ціснулі нагой, трымалі за валасы, выбівалі тэлефон. Пасля гэтага яе каля гадзіны пратрымалі ў нязручнай позе тварам да сцяны з паднятымі рукамі і шырока расстаўленымі нагамі, не называючы прычыну для гэтага і пагражаючы адправіць у РАУС. Вызвалілі журналістку каля 19.00.

**14 лістапада** намесніца начальніка па ідэалагічнай рабоце, культуры і справах моладзі Светлагорскага райвыканкама Марына Граюшава перешкаджала журналістам-фрылансерам **Кастусю Жукоўскаму** і **Андрэю Толчыну** рабіць здымкі ў вёсцы Якімава Слабада Светлагорскага раёну Гомельскай вобласці, пераследвала іх на аўтамабілі. Па словах Жукоўскага, калі ён вырашыў зняць, як за імі сочаць, Граюшава рэзка адчыніла дзверы аўтамабіля і напала на яго: пачала хапаць за вопратку, відэакамэру, стала рукамі наносіць удары. Адламала ад відэакамеры запчастку. Ён мусіў закрывацца штатывам.

Журналіст звярнуўся з заявамі ў міліцыю і Светлагорскі райвыканкам. **6 снежня** стала вядома, што Светлагорскі райвыканкам не знайшоў заганы ў дзеяннях намесніцы начальніка па ідэалагічнай рабоце, культуры і справах моладзі Марыны Граюшавай. Намеснік старшыні Светлагорскага райвыканкама Канстанцін Пятроўскі на зварот Жукоўскага паведаміў, што *"падставаў для прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці па пытаннях, указанных у звароце, а таксама фактаў, якія пацвярджаюць дыскрэдытацыю супрацоўніка органаў улады, Светлагорскі раённы выканаўчы камітэт не мае".*

## Выняцце, пашкоджанне, канфіскацыя тэхнікі

**12 сакавіка** зранку, напярэдадні запланаванага "марша недармаедаў", міліцыя правяла вобшукі ў кватэры журналіста "Радыё Рацыя" **Арцёма Сізінцава**, а таксама па адрасе, дзе прапісаны рэдактар мясцовага незалежнага сайта orsha.eu **Ігар Казмерчак**.

Пасля вобшуку Сізінцаў быў дапытаны супрацоўнікамі міліцыі Лаўрушкіным і Шыбекам па справе фальшываманетчыкаў, у сувязі з якой быў выдадзены ордэр на вобшук за подпісам старшага лейтэнанта юстыцыі Барысёнка С.І. Былі быццам бы атрыманыя "сігналы" пра верагоднасць знаходжання несапраўдных купюраў у дамах незалежных журналістаў, аднак вобшук не даў ніякіх вынікаў.

**25 сакавіка** ў Мінску ў другой палове дня ў кватэру да журналісткі **Марыны Кастылянчанка** ўламілася міліцыя. У кватэры былі выламаныя замкі і прайшоўператрус. Пасля гэтага журналістку затрымалі.

**31 сакавіка** два офісы тэлеканала **"Белсат"** у Мінску былі абшуканыя міліцыяй; усё відэаабсталяванне, якое там знаходзілася, было забрана. Супрацоўнікі міліцыі мелі ордэр на ператрус ад пракуратуры. Міліцыя паведаміла, што ператрус звязаны са справай па факце незаконнага выкарыстання таварнага знака «Белсат». Прадстаўнікі "Белсата" ўпэўненыя, што прычынай рэпрэсій супраць канала стала актыўнае асвятленне антыўрадавых пратэстаў.

**10 кастрычніка** ў ходзе разгляду адміністрацыйнай справы аператара "Белсата" Алеся Баразенкі, які быў прызнаны вінаватым у незаконным выкарыстанні таварнага знака "Белсат", суддзя Анастасія Папко пастанавіла канфіскаваць вынятае падчас вобшукаў відэаабсталяванне.
*Гл. падрабязней у "Затрыманні журналістаў, адміністрацыйны пераслед".*

**7 жніўня** супрацоўнікі Следчага камітэту правялі ператрус у кватэры журналіста **Аляксандра Здзвіжкова**. У яго забралі кампутар і карту памяці. Месяцам раней Здзвіжкоў вярнуўся з Масквы і паведаміў у міліцыю пра таямнічае знікненне сваёй маці. Па факце знікнення была распачатая крымінальная справа. Следчыя, якія прыйшлі праводзіць вобшук, заявілі, што на кампутары можа быць інфармацыя, датычная да знікнення маці журналіста. Сам журналіст меркаваў, што ператрус прайшоў пасля таго, як следчыя даведаліся пра яго прафесійную дзейнасць.

**26 верасня** супрацоўнікі крымінальнага вышуку правялі шэраг ператрусаў у грамадзянскіх актывістаў і актывістаў анархісцкага руху Мінска, у тым ліку у журналісткі-фрылансера **Марыны Кастылянчанка**. Каля 7 гадзін раніцы ў яе кватэру ўварваліся чатыры супрацоўнікі ў цывільным і двое ў чорных масках. У пастанове на правядзенне следчых дзеянняў, якую паказалі журналістцы, было адзначана, што ператрус праводзіцца ў межах крымінальнай справы аб падпале ў Івацэвічах, і што ёсць падазрэнне, што ў доме Кастылянчанка могуць знаходзіцца зброя і выбуховыя рэчывы. У выніку ператрусу, які доўжыўся паўтары гадзіны, у журналісткі забралі чатыры ноўтбукі, кнігі і запісы.

**25 кастрычніка** супрацоўнік "Украінскага радыё" Паўло Шаройка быў затрыманы ў Мінску па падазрэнні ў шпіянажы. Пры гэтым яго кватэра была абшукана.
*Гл. падрабязней у "Затрыманні журналістаў, адміністрацыйны пераслед".*

**14 лістапада** намесніца начальніка па ідэалагічнай рабоце, культуры і справах моладзі Светлагорскага райвыканкама Марына Граюшава перешкаджала журналістам-фрылансерам **Кастусю Жукоўскаму і Андрэю Толчыну** рабіць здымкі ў вёсцы Якімава Слабада Светлагорскага раёну Гомельскай вобласці. Пры гэтым яна напала на яго: пачала хапаць за вопратку, відэакамэру. Адламала ад відэакамеры запчастку.
*Гл. падрабязней у "Затрыманні журналістаў, адміністрацыйны пераслед".*

## Папярэджанні Міністэрства інфармацыі

**25 студзеня** Міністэрства інфармацыі вынесла пісьмовае папярэджанне гомельскаму навіноваму парталу **«Сильные новости»**. Гэтая мера была прынятая ў адказ на запыт ААТ «Гомельскі мясакамбінат», якое ў ліпені 2016 г. выйграла пазоў аб абароне дзелавой рэпутацыі супраць «Сильных новостей». Паколькі сайт не выканаў судовае рашэнне аб публікацыі абвяржэння на артыкул "Фотофакт: "Поесть и животинку погладить": на Гомельском мясокомбинате изготовили колбасу со шкурой и шерстью внутри", якое ўступіла ў законную сілу 22 лістапада 2016 г., Міністэрства інфармацыі адрэагавала на зварот і выдала пісьмовае папярэджанне аб неабходнасці ліквідацыі парушэнняў.

**14 сакавіка** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанні вэб-парталу **TUT.by** і газеце **"Наша Ніва" (nn.by)**. TUT.by атрымаў папярэджанне за артыкул аб беларускіх добраахвотніках ў Данбасе, якія ваююць за Украіну. Папярэджанне тычылася артыкулу пад назвай «Родители написали сначала, что я фашист. Как белорусы воют в Украине». У адпаведнасці з папярэджаннем, інфармацыя з артыкула «можа шкодзіць нацыянальным інтарэсам краіны». Гэтая старонка была выдаленая з сайта, але рэдакцыя запрасіла тлумачэнняў ад міністэрства пра тое, якія менавіта фразы парушылі заканадаўства.

Папярэджанне "Нашай Ніве" было выклікана васьмю каментарамі на сайце, якія «могуць нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Беларусі». Каментары ўтрымлівалі рэзкую крытыку ўладаў і публікацыю раскладу акцый пратэстаў "недармаедаў» у рэгіёнах Беларусі. Рэдакцыя паведаміла, што гэтыя каментары былі выдаленыя.

**20 лістапада** Міністэрства інфармацыі вынесла пісьмовае папярэджанне незалежнай газеце **«Борисовские новости»** за парушэнне арт. 38 Закона "Аб сродках масавай інфармацыі". Падставай для яго стала інфармацыя, змешчаная ў артыкуле «Рассерженные люди выйдут на площадь» ад 4 кастрычніка, у якой узгадвалася несанкцыянаваная акцыя "Марш абураных беларусаў 2.0", што мелася адбыцца 21 кастрычніка  на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску. У адпаведнасці з беларускім заканадаўствам, гэта інфармацыя забаронена для распаўсюджвання.

**Да 20 снежня** з пачатку 2017 г. Міністэрствам інфармацыі было вынесена 17 пісьмовых папярэджанняў сямі СМІ і сямі інфармацыйным рэсурсам (аднаму – двойчы і аднаму – тройчы). Такія звесткі на запыт прэс-сакратара ГА "БАЖ" Барыса Гарэцкага прадаставіў першы намеснік міністра інфармацыі Ігар Луцкі. Найбольшая колькасць парушэнняў з боку СМІ тычылася распаўсюду недакладнай інфармацыі.

**29 снежня** Міністэрствам інфармацыі былі вынесеныя пісьмовыя папярэджанні чатыром рэдакцыям друкаваных сродкаў масавай інфармацыі. Часопісы **"Большой", "ICON" і "Fashion collection"** атрымалі папярэджанні за непрастаўленне знака ўзроставай катэгорыі (арт. 17 закона "Аб сродках масавай інфармацыі"); газета **"Агробизнес"** – за невыкананне патрабаванняў заканадаўства аб выходных дадзеных друкаваных сродкаў масавай інфармацыі (арт. 22 закона "Аб сродках масавай інфармацыі").

## Абмежаванні свабоды дзейнасці ў Інтэрнэце

10 студзеня Міністэрства інфармацыі абмежавала доступ да 11 сайтаў (dengi-srochno.by, dengi-bystro.by, zaem-vsem.by, fxline.by, landing.fxline.by, streamforex.by , weltrade.ru, by.weltrade.com, stforex.com, ru.mtrading.com, mtrading.by) у адпаведнасці з пісьмовым паведамленнем Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю.

На рэсурсах dengi-srochno.by, dengi-bystro.by, zaem-vsem.by размяшчалася рэклама аб прадастаўленні мікрапазык неабмежаванаму колу асоб фізічнымі асобамі, не ўключанымі ў рэестр мікрафінансавых арганізацый. Астатнія восем сайтаў былі заблакаваныя з-за рэкламы арганізацый, якія не ўключаны ў рэестр форэкс-кампаній.

**18 студзеня** вечарам і ўначы сайт Беларускай асацыяцыі журналістаў **baj.by** апынуўся пад цяжкай DDoS атакай. Праца сайта была адноўленая раніцай 19 студзеня шляхам адключэння некаторых формаў зваротнай сувязі. Увесь дзень яна была няўстойлівай.

**25 студзеня** быў абмежаваны доступ да інтэрнэт-сайту **sputnikipogrom.com** у адпаведнасці з загадам Міністэрства інфармацыі ад 23 студзеня 2017 г. Падставай стала рашэнне суда Цэнтральнага раёна г. Мінска аб прызнанні экстрэмісцкімі матэрыяламі інфармацыйнай прадукцыі, размешчанай на гэтым інфармацыйным рэсурсе.

Дадзенае рашэнне суда было прынята з улікам экспертнага заключэння Рэспубліканскай экспертнай камісіі па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі на прадмет наяўнасці (адсутнасці) ў ёй прыкмет праявы экстрэмізму. Камісія прыйшла да высновы, што ў шэрагу матэрыялаў, апублікаваных на сайце sputnikipogrom.com, утрымліваюцца прыкметы праявы экстрэмізму ў частцы інфармацыі, накіраванай на распальваньне нацыянальнай варожасці або розні, прапаганду перавагі альбо непаўнавартаснасці на падставе нацыянальнай або моўнай прыналежнасці, а таксама гвалтоўнае змяненне канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь.

Распаўсюджванне такіх інфармацыйных паведамленняў забаронена ў адпаведнасці з артыкулам 38 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

**6 красавіка** стала вядома, што Міністэрства інфармацыі на працягу сакавіка 2017 г. прыняла рашэнні аб абмежаванні доступу да 11 інтэрнэт-рэсурсаў. Так, у адпаведнасці з паведамленнем Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь абмежаваны доступ да інфармацыйнага рэсурсу, размешчанага ў даменнай зоне .ru, які змяшчае паведамленні і матэрыялы, накіраваныя на незаконны абарот наркотыкаў.

Таксама на падставе пісьмовых паведамленняў Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю Рэспублікі Беларусь і Магілёўскага аблвыканкама абмежаваны доступ да 3 інфармацыйных рэсурсаў (forexoptimum.by, freshforex.org і forex-minsk.net) за размяшчэнне

неналежнай рэкламы дзейнасці па здзяйсненні аперацый з беспаставачнымі пазабіржавым фінансавымі інструментамі, да 2 інфармацыйных рэсурсаў (dengi-v-dolg-pod-procenty.ook.by і expresszaem.net) – за размяшчэнне неналежнай рэкламы аб прадастаўленні мікрапазык неабмежаванаму колу асоб, а таксама да 5 інфармацыйных рэсурсаў у даменных зонах .top, .su і .by – за размяшчэнне неналежнай рэкламы лекавых сродкаў.

**11 красавіка** жыхарка Воршы **Юлія Малышава** была прысуджаная да штрафу за анлайн-трансляцыю ў сацсетцы "Одноклассники". Разам з іншымі валанцёрамі яна наведала мясцовы пункт адлову жывёл і паказала, у якіх умовах утрымліваюцца там сабакі. Супрацоўнікі ўстановы выклікалі міліцыю, якая забрала дзяўчыну ў аддзяленне. Юлію Малышаву абвінавацілі ў непадпарадкаванні міліцыі (арт. 23.4 КаАП), незаконным пранікненні на аб'ект, які ахоўваецца (арт. 23.14 КаАП), а таксама ў незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі сродку масавай інфармацыі (ч. 2 арт. 22.9 КаАП), хаця яна ніколі не супрацоўнічала са СМІ і журналістам сябе не лічыць. На наступны дзень справу Малышавай разгледзела суддзя Алеся Дранькова. У выніку дзяўчына атрымала сумарна па трох артыкулах штраф у памеры 1058 рублёў.

**6 снежня** стала вядома, што Міністэрства інфармацыі на працягу лістапада 2017 года прыняла рашэнні аб абмежаванні доступу да 9 інтэрнэт-рэсурсаў.

За распаўсюд інфармацыі, накіраванай на рэалізацыю наркатычных сродкаў, абмежаваны доступ да двух інфармацыйных рэсурсаў, за прапаганду парнаграфіі – да аднаго інфармацыйнага рэсурсу.

На падставе пісьмовых паведамленняў Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю Рэспублікі Беларусь абмежаваны доступ да 6 інфармацыйных рэсурсаў (dengitut3.by, immigrant.by, bn.by, belaruscity.net/minsk/photo-22619.html, пазыку-пад-залог.бел, belarusgo.com) за размяшчэнне неналежнай рэкламы.

Таксама было вынесена пісьмовае папярэджанне рэдакцыі газеты "Борисовские новости" і ўладальніку інфармацыйнага рэсурсу borisovnews.by – прыватнаму вытворчаму ўнітарнаму прадпрыемству "Букас медыя-цэнтр" – за парушэнне патрабаванняў артыкула 38 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі". Падставай для гэтага папярэджання стала інфармацыя, змешчаная ў артыкуле «Рассерженные люди выйдут на площадь» ад 4 кастрычніка, у якой узгадвалася несанкцыянаваная акцыя "Марш абураных беларусаў 2.0", які меўся адбыцца 21 кастрычніка на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску.

**14 снежня** Міністэрства інфармацыі апублікавала рашэнне заблакаваць доступ да інтэрнэту-сайту **belaruspartisan.org** з-за «сістэмнага парушэння закона аб СМІ» -- рэгулярнага размяшчэння матэрыялаў, у якіх змяшчаецца забароненая інфармацыя. Міністэрства не ўказала, якая канкрэтна «забароненая інфармацыя» была апублікаваная на сайце.

*Belaruspartisan.org быў створаны ў 2005 годзе вядомым беларускім журналістам Паўлам Шараметам, які быў забіты ў 2016 годзе ва Украіне. Ён лічыцца адным з самых папулярных навіновых рэсурсаў у Беларусі. У апошні час каля двух мільёнаў карыстальнікаў наведвалі belaruspartisan.org штомесяц.*

**14 снежня** сайт **Bsblog.info**, які ўзначальвае аналітык Андрэй Паротнікаў, быў узламаны. У матэрыял пра камандзіроўку Паротнікава ў Румынію былі дададзеныя антырасійскія выказванні.

**Да 20 снежня з пачатку 2017 г.** Міністэрствам інфармацыі было вынесена 17 папярэджанняў інфармацыйным рэсурсам. За гэты ж перыяд 2017 г. Міністэрства інфармацыі прыняла рашэнні аб

абмежаванні доступу да 106 інфармацыйных інтэрнэт-рэсурсаў. Такія звесткі на запыт прэс-сакратара ГА "БАЖ" Барыса Гарэцкага прадаставіў першы намеснік міністра інфармацыі Ігар Луцкі.

## Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі

**6 студзеня** гомельскі журналіст-фрылансер **Кастусь Жукоўскі** атрымаў ад выканаўцы абавязкаў генеральнага дырэктара ААТ "Будаўніча-мантажны трэст №27" Юрыя Ашуркі адказ на сваю пісьмовую скаргу наконт адмовы ў прадастаўленні інфармацыі намеснікам дырэктара трэста па кадрах, ідэалагічнай працы і сацыяльных пытаннях Мікалаем Сугакам. Скарга Жукоўскага была прызнаная неабгрунтаванай. Журналіст цікавіўся дзейнасцю прафсаюзнай арганізацыі па сацыяльнай абароне будаўнікоў, аднак ідэолаг заявіў, што яму паступіла ўказаннне не даваць ніякай інфармацыі канкрэтна Жукоўскаму. **17 студзеня** Жукоўскі падаў у суд Цэнтральнага раёна Гомеля пазоў, каб прымусіць кіраўніцтва ААТ "Гомельскі будаўніча-мантажны трэст № 27" прадаставіць інфармацыю, аднак суд адмовіўся разглядаць яго, спасылаючыся на непадведамаснасць.

**9 студзеня** журналіст з Гродна **Віктар Парфёненка** даведаўся, што Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь дзевяты раз адмовіла яму ў акрэдытацыі ў якасці карэспандэнта "Беларускага Радыё Рацыя". МЗС было вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН ужо разглядае скаргу Парфёненкі з нагоды неакрэдытацыі ў якасці замежнага журналіста.

**31 студзеня** старшыня канвою не дазволіў журналістцы **Мілане Харытонавай** зрабіць здымкі ў судзе Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці, дзе слухалася справа фермера, абвінавачанага ў непадпарадкаванні міліцыі. Як распавяла Мілана Хатытонава, суддзя заявіў, што ў перапынку і пасля заканчэння паседжання здымаць дазволена, бо забараніць гэта ён не можа. Аднак у перапынку старшыня канвою забараніў журналістцы здымаць абвінавачанага, хоць сам той быў не супраць. Іншыя прадстаўнікі канвою таксама замінalі здымаць, спрабавалі закрыць абвінавачанага ад камеры і зачыніліся ў зале суда падчас перапынку. Старшыня канвою паведаміў Харытонавай, што тэлефанаваў ва ўпраўленне ўнутраных спраў Брэсцкага аблвыканкама, дзе атрымаў адпаведныя інструкцыі, і адмовіўся паведаміць сваё прозвішча.

**16 лютага** Адміністрацыя Маскоўскага раёну Мінска забараніла карэспандэнтцы "Радыё Свабода" **Галіне Абакунчык** прысутнічаць у будынку адміністрацыі падчас прыёму грамадзян памочнікам прэзідэнта Аляксандрам Якабсонам. Чыноўнікі адміністрацыі адмовілі ёй на той падставе, што прыём будуць асвятляць дзяржаўныя СМІ. Акрамя таго, ад журналісткі запатрабавалі не размаўляць з наведнікамі ў чарзе і пакінуць будынак. На гэта абурыліся людзі, якія сабраліся ў чаргу на прыём. Тады дзяжурны міліцыянт перапісаў пашпартныя звесткі Галіны Абакунчык і вымусіў яе пакінуць будынак.

**22 сакавіка** начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму Баранавіцкага гарвыканкама Сяргей Пузікаў забараніў дырэктару адной са школ даваць інтэрв'ю незалежнай газеце **"Intex-press"**. Калі карэспандэнтка "Intex-press" **Кацярына Бубен** па папярэдняй дамоўленасці прыйшла да нядаўна прызначанай дырэктаркі школы Марыны Купцовай, каб даведацца пра яе біяграфію, планы на новым месцы працы і зрабіць фатаграфію, тая патэлефанавала Сяргею Пузікаву. Пасля гэтага Купцова паведаміла журналістцы, што Пузікаў забараніў ёй даваць інтэрв'ю без яго дазволу, хаця інфармацыя пра новага дырэктара ўжо была апублікаваная на сайце баранавіцкай дзяржаўнай газеты.

**29 красавіка** супрацоўнік адміністрацыі Ленінскага раёна г. Магілёва Канстанцін Кісцянёў і ўчастковы інспектар Сяргей Калеснікаў не пусцілі ў залу паседжанняў, дзе павінен быў адбыцца сход сябраў гаражнага кааператыва "Спадарожнік-2008", журналіста інфармацыйнага агенцтва БелаПАН **Уладзіміра Лапцэвіча**. Удзельнікі сходу запрасілі яго для асвятлення мерапрыемства, аднак супрацоўнік адміністрацыі Ленінскага раёна Канстанцін Кісцянёў адмовіўся пусціць карэспандэнта ў залу, а потым адмовіўся выдаць кнігу заўваг і прапанаваў; участковы Ленінскага РАУС г. Магілёва Сяргей Калеснікаў не дазволіў журналісту знаходзіцца ў памяшканні і прымусова вывеў яго за руку.

Журналіст напісаў скаргу ў Ленінскі РАУС, у якой папрасіў прыцягнуць чыноўніка да адказнасці, аднак яму было адмоўлена. Пасля гэтага Лапцэвіч звярнуўся ў суд. Шэсць разоў на працягу года суд адмяняў пастановы Ленінскага РАУС аб спыненні адміністрацыйнага працэсу супраць чыноўніка. Пасля звароту Лапцэвіча да намесніка начальніка УУС Магілёўскага аблвыканкама Уладзіміра Рыжанкова міліцыянта, які вёў справу, прыцягнулі да матэрыяльнай адказнасці за тое, што той не апытаў ні Лапцэвіча, ні сведак інцыдэнту, які здарыўся 29 красавіка. Тым не менш, справа Канстанціна Кісцянёва так і не была разгледжана судом, паколькі скончыўся тэрмін прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці.

У лістападзе 2017 г. намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама Андрэй Кунцэвіч даслаў адказ на зварот Уладзіміра Лапцэвіча. У сваім лісце ён паабяцаў правесці службовае расследванне па факце магчымага парушэння Закона "Аб сродках масавай інфармацыі" з боку Кісцянёва. У выніку факту парушэння дзеючага заканадаўства выяўлена не было.

**19 лютага** 2018 г. намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі МУС Алег Каразей у сваім лісце прынёс прабачэнні Уладзіміру Лапцэвічу за непрафесійныя дзеянні супрацоўнікаў органаў унутраных спраў.

**2 мая** ў Слоніме незалежных журналістак **Дар'ю Сапранецкую і Юлію Ражэх** спрабавалі затрымаць мясцовыя чыноўнікі. Журналісткі здымалі ў горадзе тэлесюжэт і звярнуліся па каментар у Слонімскі раённы выканаўчы камітэт. Падчас размовы супрацоўнікі выканкама забралі ў журналістак прэс-карты, заявілі, што затрымліваюць іх і будуць выклікаць міліцыю. Тады журналісткі з'ехалі, пакінуўшы свае пасведчанні.

**24 мая** Вольга Дудко, начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Баранавіцкага гарвыканкама, забараніла карэспандэнту мясцовай незалежнай газеты "Intex-press" **Алене Зелянко** прыйсці на сустрэчу абаронцаў жывёлаў са старшынёй Баранавіцкага гарвыканкама. Алена Зелянко з'яўляецца аўтарам артыкула аб адсутнасці ў Баранавічах прытулку для бадзяжных жывёл і была запрошана на гэтую сустрэчу абаронцамі жывёл.

31 мая **Ганну Валадашчук**, журналістку **«Газеты Слонімскай»**, не пусцілі асвятляць сход мясцовых жыхароў з удзелам прадстаўнікоў мясцовых уладаў у вёсцы Дзярэчын Зэльвенскага раёна. Журналістка была запрошана на мерапрыемства мясцовымі жыхарамі. Аднак супрацоўнік Зэльвенскага райвыканкама закрыў перад ёй уваход у Дом культуры, дзе праходзіў сход, і стаяў там, пакуль журналісты не з'ехалі з вёскі. Ён заявіў, што "Газета Слонімская" неаб'ектыўна піша, таму яе супрацоўніца не будзе прапушчана.

**30 мая** начальнік Слонімскага райаддзела Следчага камітэта Яўген Ерашэнкаў паведаміў галоўнаму рэдактару "Газеты Слонімскай" Віктару Валадашчуку, што ён загадаў не даваць інфармацыю журналістцы гэтай газеты **Таццяне Плахетка**. Як зазначыў Ерашэнкаў, гэта было яго асабістым рашэннем пасля перадруку на сайце антыкарупцыйнага артыкула пра старшыню Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь Івана Наскевіча.

**5 чэрвеня** Камітэт дзяржаўнай бяспекі адмовіўся прадаставіць ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" пералік пераважна рэжымных і рэжымных аб'ектаў, якія ў Беларусі забаронена фатаграфаваць. Першапачаткова ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" звярталася ў Савет Міністраў, адкуль запыт чамусьці быў перанакіраваны ў КДБ. Першы намеснік старшыні КДБ **Ігар Сяргеенка адказаў**, што гэтыя звесткі адносяцца да інфармацыі, прадастаўленне якой абмежавана. Такім чынам, для журналістаў няма магчымасці пазбягаць канфліктаў з міліцыяй ці супрацоўнікамі аховы, звязаных з забаронай праводзіць фота- і відэаздымку пэўных аб'ектаў.

**6 чэрвеня** журналістам **Мілане Харытонавай і Алесю Ляўчуку**, якія супрацоўнічаюць з "Белсатам", перашкаджалі працаваць супрацоўнікі дзяржаўнага прадпрыемства "Камунальнік" у Брэсце. Калі журналісты высвятлялі, чаму ў горадзе спілоўваюць здаровыя дрэвы, супрацоўнікі «Камунальніка» паводзілі сябе агрэсіўна і спрабавалі вырваць камеру ў Міланы Харытонавай. Начальнік аддзелу «Камунальніка» Уладзімір Співак заявіў па тэлефоне Алесю Ляўчуку, што ён не абавязаны ні перад кім даваць справаздачу і не будзе адказваць на пытанні журналіста.

**3 ліпеня** ў час святкавання Дня незалежнасці ў цэнтры Бабруйска былі забароненыя фатаграфаванне і відэаздымкі. Пра гэтую забарону папярэджвалі адмысловыя шчыты пры ўваходзе на абгароджаную тэрыторыю. Калі нехта спрабаваў здымаць, супрацоўнікі міліцыі паведамлялі, што здымаць катэгарычна забаронена.

**8 верасня** ў Глыбокім Віцебскай вобласці журналіст-фрылансер **Зміцер Лупач** стаў сведкам рэпетыцыі прысягі вайскоўцаў і пачаў фатаграфаваць. Спачатку да яго падыйшла Людміла Карніловіч, якая часова выконвае абавязкі начальніка аддзела ідэалогіі Глыбоцкага райвыканкама, і сказала, каб ён не фатаграфаваў, бо не мае акрэдытацыі. Дзмітрый Лупач патлумачыў чыноўніцы, што мае права здымаць без акрэдытацыі, бо ўсё адбываецца на вуліцы ў грамадскім месцы, а не ў закрытым памяшканні. Тады Карніловіч пачала пагражаць, што, калі журналіст не паслухае, у яго могуць узнікнуць праблемы з ваенкаматам. Затым падыйшоў вайсковец і, не прадставіўшыся, таксама пачаў даводзіць, што здымаць рэпетыцыю без дазволу нельга.

**10 верасня**, калі Зміцер Лупач прыйшоў ў цэнтр Глыбокага здымаць непасрэдна прысягу рэзервістаў, каб зрабіць матэрыял для сайта Westki.info, яго зноў перастрэла ідэолаг Людміла Карніловіч. Карніловіч забараніла весці фота-, відэаздымку публічнага мерапрыемства. Матывавала яна гэта тым, што Зміцер Лупач на гэтую падзею не акрэдытаваны. Журналіст падчас падзеі стаяў за агароджай, у цэнтр плошчы пусцілі толькі журналістаў з дзяржаўных СМІ.

**16 верасня** на канцэрце расійскага гурта "Anacondaz" у клубе "Re: public" ахова з прымяненнем фізічнай сілы вывела фатографа **Івана Дзечканца** з фотапіта – абгароджанай зоны перад сцэнай, дзе ў ліку іншых працуюць фотакарэспандэнты. Прычынай таму стала нібыта адсутнасць акрэдытацыі, якую, па словах фатографа і арганізатараў, ён на самай справе праходзіў. Дырэктар клуба "Re: public" Андрэй Старцаў пазней заявіў, што выбачыўся перад Іванам Дзечканцом, з супрацоўнікаў ўзяў тлумачальныя.

*Гл. падрабязней у "Фізічныя замахі ў адносінах да журналістаў".*

**14 лістапада** намесніца начальніка па ідэалагічнай рабоце, культуры і справах моладзі Светлагорскага райвыканкама Марына Граюшава перешкаджала журналістам-фрылансерам **Кастусю Жукоўскаму і Андрэю Толчыну** рабыць здымкі ў вёсцы Якімава Слабада Светлагорскага раёну Гомельскай вобласці, пераследавала яго на аўтамабілі. Па словах Жукоўскага, калі ён вырашыў зняць пераследвальнікаў, Граюшава рэзка адчыніла дзверы і напала на яго: пачала хапаць за вопратку, відэакамэру, стала рукамі наносіць удары. Адламала ад відэакамеры запчастку. Ён мусіў закрывацца штатывам.

*Гл. падрабязней у “Фізічныя замахі ў адносінах да журналістаў”.*

**20 лістапада** старшыня Першамайскага сельсавета Валерый Шупенік спрабаваў перашкаджаць працы рэдактара сайта «Першы Рэгіён» **Паўла Дайліда**, які рабіў відэаздымкі схода жыхароў у вёсцы Жычын Бярозаўскага раёна. Сход адбываўся на вуліцы каля крамы. Калі Дайлід паказаў пасведчанне журналіста, Шупенік запатрабаваў яшчэ і «акрэдытацыю» і заявіў, што ён журналіста сюды “не запрашаў”. Параіўшыся з кімсьці па тэлефоне, сельскі чыноўнік больш не прад'яўляў прэтэнзіі да працы журналіста.

**24 лістапада** журналістку інфармацыйна-навінавага партала Край.by **Кацярыну Сушко** не пусцілі на паседжанне Маладзечанскага райвыканкама, у той час як журналістаў дзяржаўных СМІ пусцілі. Журналістка загадзя паведаміла пра свой намер прысутнічаць на паседжанні “Аб выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна за 9 месяцаў 2017 г.” Аднак выканаць свае прафесійныя абавязкі **Кацярына Сушко** не змагла. Ля дзвярэй у канферэнц-залу яе спыніла **Валянціна Даўбенка,** супрацоўніца сектара ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама. Яна заявіла: “На паседжанні прысутнічаюць нашы СМІ, заснавальнікамі якіх мы з'яўляемся. У мяне ёсць спіс запрошаных людзей – вас там няма, у вас адсутнічае акрэдытацыя на дадзенае мерапрыемства, у вас няма рэдакцыйнага задання”.

**27 лістапада** карэспандэнт "Газеты Слонімскай" **Мікіта Пастухоў**, праводзячы апытанне пра выбары найлепшага ў сезоне футбаліста Слонімшчыны, хацеў пачуць меркаванне на гэты конт работнікаў аддзела спорту і турызму Слонімскага райвыканкама. Журналіст увайшоў у будынак раённай адміністрацыі, але далей файе прайсці не атрымалася. Выслухаўшы пра мэту візіту, супрацоўніца ахвовы ветліва адказала Пастухову, што не прапусціць, паколькі ёсць распараджэнне не пускаць супрацоўнікаў "Газеты Слонімскай" па працоўных пытаннях. І дадала, што нядаўна ў райвыканкам ужо не дазволілі прайсці распаўсюдніку "Газеты Слонімской". Ахоўніца прапанавала, як варыянт, патэлефанаваць у аддзел спорту і турызму, каб хто-небудзь адтуль спусціўся пагутарыць з журналістам. Датэлефанавацца не атрымалася, і карэспандэнт пакінуў будынак дзяржустановы без патрэбнай інфармацыі.

Распаўсюдніца "Газеты Слонімской" **Ніна Рыжова** пацвердзіла словы ахоўніцы. **15 лістапада** менавіта яе не пускалі ў Слонімскі райвыканкам па распараджэнні намесніцы кіраўніка райвыканкама Кацярыны Руткоўскай. Сітуацыя змянілася пасля таго, як яна **21 лістапада** схадзіла на прыём да намесніка пракурора Слонімскага раёна.

**22 снежня** журналіст TUT.by **Павел Мурашка** не змог трапіць на адкрыццё аўтасалона “Geely”. Да журналіста падыйшоў адзін з арганізатараў мерапрыемства і сказаў, што з заводу паступіла просьба, каб яго выдалілі з прэс-канферэнцыі, інакш прадстаўнікі завода не будуць у ёй удзельнічаць. Гэта, верагодна, адбылося ў сувязі з апублікаванымі раней коштамі на мадэльны рад “Geely”.

Як паведаміў Аляксандр Дземідовіч, кіраўнік аддзела камерцыйных спецпраектаў TUT.BY, у распараджэнне рэдакцыі трапіў прэйскурант на аўтамабілі “Geely” за дзень да адкрыцця двух аўтацэнтраў “Geely”. Ён быў апублікаваны. Паколькі гэтыя кошты некалькі адрозніваліся ад таго, што раней анансаваў віцэ-прэм'ер Сямашка, на гэтым зрабілі акцэнт: красовер “Geely Atlas” аўтаматычна трапляў у канкурэнцыю з машынамі, якія збіраюцца ў Еўропе і Расіі. Пасля гэтага ў рэдакцыю тэлефанавалі ад прадстаўніка дылерскага цэнтра з патрабаваннем спачатку зняць артыкул, потым – памяняць загаловак. У гэтым было адмоўлена, хоць некаторыя акцэнты з тэксту прыбралі. Другое тэлефанаванне было ад чалавека, які не прадставіўся і запатрабаваў зняць матэр'ял. Потым тэлефанаваў камерцыйны дырэктар завода “Geely”, які выказаў незадаволенасць артыкулам і кінуў трубку.

Пазней у размовах з журналістамі Marketing.by прадстаўнік завода адмаўляў, што прасіў выдаліць Паўла Мурашку з прэс-канферэнцыі. Ірына Ермакова, спецыяліст па маркетынгу "Джылі Цэнтр Мінск", адказала, што дылерскі цэнтр не будзе каментаваць сітуацыю.

**27 снежня** карэспандэнту інфармагенцтва БелаПАН **Алесю Асіпцову** не дазволілі прысутнічаць на адкрытым паседжанні камісіі ў школе № 19 горада Магілёва, якая разглядала гучную справу непаўналетніх правапарушальнікаў. Маладыя людзі 26 лістапада самавольна пакінулі тэрыторыю спецыяльнага вучылішча для непаўналетніх правапарушальнікаў. Пасля затрымання адзін з іх апынуўся ў лякарні са зламаным пазваночнікам. Паводле следства, кіраўнік вучылішча і яго намеснік збівалі хлопцаў, высвятляючы прычыны і абставіны іх уцёкаў. Гэтае здарэнне атрымала шырокі рэзананс у грамадстве і сродках масавай інфармацыі. Па словах Асіпцова, камісія адмовіла яму ў прысутнасці на паседжанні, спаслаўшыся на тое, што журналіст не звярнуўся да іх з адпаведным зваротам, а таксама на тое, што яго прысутнасць будзе зацягваць разгляд справы.

**27 снежня** журналіст сайта "Першы рэгіён" **Павел Дайлід** не быў дапушчаны на сесію раённага савета дэпутатаў у Івацэвічах Брэсцкай вобласці, дзе разглядаўся бюджэт Івацэвіцкага раёна на 2018 год, а таксама выкананне плана сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна. На ўваходзе ў залу паседжанняў яго спыніў намеснік старшыні Івацэвіцкага райвыканкама па ідэалагічнай працы Аляксандр Велікаселец, які запатрабаваў "акрэдытацыю пры райвыканкаме". У выніку журналіста на сесію не пусцілі, нягледзячы на тое, што паседжанне было адкрытым.

## Іншыя формы ціску і парушэння правоў журналістаў і СМІ

**20 студзеня** Генеральная пракуратура Рэспублікі Беларусь прыняла рашэнне аб выдачы расейска-ізраільскага блогера **Аляксандра Лапшына** Азербайджану.

15 снежня 2016 г. ён быў затрыманы ў Мінску па запыце аб экстрадыцыі, атрыманым з Азербайджана. Лапшын жыў у Маскве і з'яўляўся аўтарам папулярнага блога на рускай мове travel blog. Ён быў абвешчаны ў вышук Азербайджанам з-за наведвання спрэчнага раёна Нагорнага Карабаха і за крытыку ў сваім блогу азербайджанскай палітыкі. Там супраць яго была ўзбуджаная крымінальная справа па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса, якія прадугледжваюць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ад пяці да васьмі гадоў.

**26 студзеня ў Мінскім гарадскім судзе ў закрытым рэжыме была разгледжана скарга Аляксандра Лапшына на рашэнне Генпракуратуры аб яго экстрадыцыі.** Суд прызнаў пастанову намесніка генпракурора Беларусі Аляксея Стука аб задавальненні просьбы Генпракуратуры Азербайджана выдаць блогера Лапшына законнай і адмовіў у задавальненні скаргі.

**7 лютага** Вярхоўны Суд Беларусі разгледзеў скаргу **Аляксандра Лапшына** на рашэнне Мінскага гарадскога суда і пакінуў яе без задавальнення. У той жа дзень блогер быў дастаўлены ў сталіцу Азэрбайджана спецыяльным рэйсам з Мінску.

**8 лютага** адкрытае акцыянэрнае таварыства «Гомельскі мясакамбінат» звярнулася ў Міністэрства інфармацыі з просьбай прыпыніць дзейнасьць інфармацыйнага парталу **«Сильные новости»**. ААТ «Гомельскі мясакамбінат» у ліпені 2016 г. выйграла пазоў аб абароне дзелавой рэпутацыі супраць «Сильных новостей». Аднак сайт не выканаў судовае рашэнне аб публікацыі абвяржэння на артыкул "Фотофакт: "Поесть и животинку погладить": на Гомельском мясокомбинате изготовили колбасу со шкурой и шерстью внутри", якое ўступіла ў законную сілу 22 лістапада 2016 г..

Міністэрства інфармацыі 25 студзеня выдала пісьмовае папярэджанне аб ліквідацыі парушэнняў. Паколькі на сайце так і не з'явілася абвяржэння, Гомельскі мясакамбінат паўторна звярнуўся ў Міністэрства інфармацыі, спасылаючыся на Закон аб СМІ, у адпаведнасці з якім выпуск сродкаў масавай інфармацыі можа быць прыпынены на тэрмін да трох месяцаў, калі парушэнні не будуць ліквідаваныя ў названыя тэрміны, а рэдакцыя або заснавальнік СМІ не прадаставіць пацвярджаючыя дакументы.

**12 сакавіка** зранку, напярэдадні запланаванага "марша недармаедаў", міліцыя правяла вобшукі ў кватэры журналіста "Радыё Рацыя" **Арцёма Сізінцава**, а таксама па адрасе, дзе прапісаны рэдактар незалежнага сайта orsha.eu **Ігар Казмерчак**. Пасля вобшуку Сізінцаў быў дапытаны супрацоўнікамі міліцыі Лаўрушкіным і Шыбекам па справе фальшываманетчыкаў, у сувязі з якой быў выдадзены ордэр на вобшук за подпісам старшага лейтэнанта юстыцыі Барысёнка С.І. Міліцыя быццам бы атрымала "сігналы" пра верагоднасць знаходжання несапраўдных купюраў у дамах незалежных журналістаў, аднак вобшук не даў ніякіх вынікаў.
*Гл. таксама ў "Выняцце, пашкоджанне, канфіскацыя тэхнікі".*

**13 сакавіка Дзмітрыю Сабураву,** які ў сваім відэаблогу рэзка крытыкуе дэкрэт аб «дармаедах», патэлефанаваў невядомы, які нібыта хацеў дапамагчы. Па словах блогера, ён сказаў, што ў Гомельскім УУС рыхтуецца правакацыя супраць Сабурава: хочуць падкінуць наркотыкі альбо нібыта ёсць нейкая асоба, якая будзе сведчыць, што ён распаўсюджваў наркотыкі. Блогер палічыў гэта запалохваннем, таму што тады ж яшчэ аднаму актывісту паступіла інфармацыя, што на ўсіх, каму прыходзілі позвы пасля пратэстаў, рыхтуюцца крымінальныя справы.

**15 сакавіка**, у дзень акцыі пратэсту ў Гродне, шэраг незалежных журналістаў застрашвалі і блакавалі, каб не дапусціць асвятлення акцый супраць прэзідэнцкага дэкрэту аб "дармаедах".

Машыну з журналістамі «Белсату», сярод якіх быў **Алесь Залеўскі**, што ехала ў Гродна, затрымала ДАІ для праверкі.

Супрацоўнікі міліцыі заблакавалі ва ўласнай кватэры журналіста **Алеся Дзянісава**. Пад яго пад'ездам дзяжурылі некалькі міліцэйскіх машын. Адзін з журналістаў быў заблакаваны ў сваім пад'ездзе. Ён двойчы спрабаваў выйсці, і да яго двойчы невядомыя людзі падыходзілі з прапановаю "праехаць".

Журналісту **Руслану Кулевічу** патэлефанавалі і паведамілі, што ён выклікаецца ў Следчы камітэт з-за яго артыкула.

**18 сакавіка** супрацоўнікі гомельскай міліцыі наведалі бацькоў журналісткі **Ларысы Шчыраковай**, каб пагаварыць пра яе дзесяцігадовага сына. Яны папярэдзілі сям'ю журналісткі, каб Ларыса не ажыццяўляла журналісцкую дзейнасць. Маўляў, інспекцыя па справах непаўнагадовых можа забраць хлопчыка, таму што жанчына здзейсніла шэраг адміністрацыйных правапарушэнняў.

**22 сакавіка** падначалены намесніка Міністра ўнутраных спраў, начальніка міліцыі грамадскай бяспекі Мікалая Мельчанкі паведаміў прадстаўнікам **ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў"**, што яны не змогуць трапіць на прыём да Мельчанкі, хоць і своечасова запісаліся. Намеснік старшыні арганізацыі **Аліна Суравец** і сябра Праўлення **Алег Агееў** хацелі абмеркаваць з чыноўнікам сітуацыю з масавымі затрыманнямі журналістаў, а таксама фармат працы міліцыі падчас акцыі, запланаванай на 25 сакавіка. Аднак напярэдадні прыёмнага дня Алег Агееў так і не змог атрымаць ад МУС інфармацыю, у які канкрэтна час Мельчанка прыме прадстаўнікоў журналісцкай арганізацыі. Падчас дзесяціхвіліннай размовы супрацоўнік прыёмнай спачатку

спрабаваў цалкам адмовіць у праве на асабісты прыём, а потым паабяцаў, што звяжацца з прадстаўнікамі БАЖ на наступны дзень, але так і не зрабіў гэтага.

**23 сакавіка** ў Гродне журналістаў масава выклікалі ў міліцыю. Сярод выкліканых праз тэлефон былі: **Віктар Парфёненка, Андрэй Мялешка, Аляксандр Саенка, Вольга Корсун, Руслан Кулевіч, Катажына Ляўдацкая і Дзяніс Івашын**. Яны былі запрошаныя ў РАУС, каб пагаварыць пра "заканадаўства Рэспублікі Беларусь", аднак без афіцыйных павестак. Журналісты палічылі гэтыя запрашэнні псіхалагічным ціскам перад маючай адбыцца 25 сакавіка акцыяй, прысвечанай Дню волі.

**24 сакавіка** журналіст-фрылансер з Гомеля **Кастусь Жукоўскі** быў выкліканы ў міліцыю, КДБ і пракуратуру. Але па стане здароўя і з-за графіка працы – ён павінен быў асвятляць Дзень Волі ў Гомелі 24 і 25 сакавіка – Жукоўскі не з'явіўся па выкліках.

Былі спробы затрымаць яго ў час пратэстаў, пасадзіць у машыну "паразмаўляць". Яму сказалі, што не дазваляецца здымаць. Аднак людзі заступіліся за журналіста і не далі супрацоўнікам у цывільным затрымаць яго. Жонка Жукоўскага хутка аднесла дадому зняты ім матэрыял, які выйшаў у эфір.

**24 сакавіка** Гомельская пракуратура вынесла пісьмовыя папярэджанні журналістам **Марыне Драбышэўскай, Марыі Булавінскай, Яўгену Меркісу і Сяргею Ляпіну** за супрацу з незарэгістраваным тэлеканалам «Белсат».

**26 сакавіка сябры брэсцкай філіі ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў"** наведалі ў Брэсцкай лякарні хуткай медычнай дапамогі Уладзіміра Някляева, які патрапіў туды пасля таго, як быў затрыманы ноччу з 24 на 25 сакавіка на брэсцкім чыгуначным вакзале. Пасля гэтай сустрэчы да журналістаў падыйшлі начальнік упраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі УУС Брэсцкага аблвыканкама Генадзь Вайтовіч і намеснік начальніка міліцыі грамадскай бяспекі УУС аблвыканкама Вячаслаў Максімук. Яны распавялі журналістам пра "непажаданыя наступствы" гэтага візіту, "па-добраму" папярэдзіўшы пра неабходнасць тэрмінова сыйсці з лякарні. У іншым выпадку сябраў БАЖ паабяцалі адвезці ў міліцэйскі пастарунак.

**1 красавіка** ўвечары да крычаўскіх журналістаў **Сяргея Няроўнага і Мікалая Гердзія** наведаўся ўчастковы інспектар Крычаўскага РАУС лейтэнант міліцыі Андрэй Шашкоў. Яго цікавіла, ці не журналісты мясцовай незалежнай газеты "Вольны горад" зрабілі надпіс фарбай на асфальце "Лукашенко, уходи!" паблізу будынка Крычаўскага райвыканкама ноччу з 28 на 29 сакавіка. Па выніках гутарак былі складзеныя пратаколы апытання.

12 красавіка стала вядома, што маёр міліцыі Ігар Шутнік напісаў заяву аб прыцягненні да адказнасці за абразу **Дзяніса Марука**, рэдактара сайта realbrest.by *(гл. падрабязней у "Затрыманні журналістаў, адміністрацыйны праслед").* Міліцыянт, які, па словах журналіста, збіваў яго ў Ленінскім РАУС г. Брэста, палічыў сябе абражаным за пост у сацыяльных сетках, дзе Марук назваў яго «садыстам». Праз гэтую заяву рэдактара сайту выклікалі ў РАУС, дзе былі ўзятыя тлумачэнні. Скарга міліцыянта з'явілася літаральна праз некалькі дзён пасля таго, як Дзяніс Марук напісаў скаргу ў пракуратуру на супрацьпраўныя дзеянні міліцыянтаў. Акрамя таго, рэдактар звяртаўся ў суд Ленінскага раёну г. Брэста, каб адмяніць пастанову аб прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці.

**31 мая** Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь праінфармаваў пасольства Вялікабрытаніі ў Мінску, што брытанскаму журналісту **Філіпу Ўорвіку** забаронены уезд у Беларусь на працягу трох гадоў.

*Гл. таксама "Затрыманні журналістаў, адміністрацыйны пераслед", "Фізічныя замахі ў адносінах да журналістаў".*

2 ліпеня ўкраінскай журналістцы Аксане Каваленка, якая працуе для сайта "Ўкраінская праўда", забаранілі ўезд у Беларусь. У пункце пропуску Цяруха беларускія памежнікі знялі журналістку з цягніка "Кіеў-Мінск" і сказалі, што ёй забаронены ўезд як у Беларусь, так і ў Расію ў сувязі з наяўнасцю дамовы аб Саюзнай дзяржаве. Каваленка паведаміла, што памежнікі адмовіліся патлумачыць прычыны забароны на ўезд, але яна заўважыла на экране іхняга кампутара, што яе ініцыятарам была Расія. Памежнікі агледзелі багаж журналісткі, сфатаграфавалі яе і паставілі штамп аб забароне на ўезд у пашпарт.

28 ліпеня глыбоцкага журналіста Змітра Лупача абразіў і імкнуўся застрашыць старшыня сяльгаспрадпрыемства "Канстанцінаў двор" Юрый Вахавіч. Яму не спадабаўся сюжэт пра дрэнны стан фермы на тэрыторыі яго гаспадаркі, які выйшаў на тэлеканале "Белсат" яшчэ ўзімку. Інцыдэнт пачаў разварочвацца, калі журналіст знаходзіўся ў краме. За ім у чаргу стаў чалавек, наступіў яму на нагу і сказаў з непавагай: "Прывет, землячок!" Потым незнаёмец абазваў яго "рэшатам" і стаў пагражаць. Калі мужчына набыў тавар і выйшаў  з крамы, Лупач у яго запытаўся, у чым справа і чаму ён дазваляе сабе так паводзіцца з ім. У адказ ён пачуў: "Вось ты, "бэнээфавец", тут набываеш спіртныя напоі, зараз я цябе сфатаграфую і выкладу здымкі ў Інтэрнэт". Журналіст яшчэ раз запытаўся, у чым усё ж справа. Тады незнаёмец сказаў: "А памятаеш рэпартаж пра ферму ў Разанаве? Яшчэ раз туды сунешся, на маю ферму, табе прыйдзецца дрэнна, землячок». Пасля сеў у машыну і паехаў. Як потым даведаўся Лупач, гэта быў старшыня сяльгаспрадпрыемства "Канстанцінаў двор" Юрый Вахавіч. У тэлефоннай гутарцы з лідаркай глыбоцкай суполкі ГА "БАЖ" Таццянай Смоткінай Юрый Вахавіч сказаў, што ён нічога не ведае пра гэты інцыдэнт.

3 жніўня рэдакцыя **"Магілёўскага рэгіёна"** атрымала ліст намесніка міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Аляксандр Карлюкевіча, які запатрабаваў ад магілёўскага сайта прадаставіць інфармацыю пра артыкулы «Ці патрэбен Магілёву "Омсктэхвуглярод"?» і «Як Валерый Каплунат адрэагаваў на публікацыю «Магілёўскага рэгіёна». ТАА «Омсктэхвуглярод» абвінаваціла магілёўскі рэгіянальны сайт 6tv.by у тым, што ён распаўсюдзіў інфармацыю, якая не адпавядае рэчаіснасці. Па меркаванню кампаніі, тым самым журналісты нанеслі шкоду дзелавой рэпутацыі кампаніі, яе кіраўніка і дзяржаўным інтарэсам Рэспублікі Беларусь. Таксама «Омсктэхвуглярод» палічыла недакладнай інфармацыю пра тое, што заводы па вытворчасці тэхнічнага вугляроду, адзін з якіх запускаецца пад Магілёвам, могуць ператварыць прылеглую тэрыторыю ў зону экалагічнага бедства. Усяго Міністэрства інфармацыі запрасіла ў рэдакцыі тлумачэнні па пяці пунктах у матэрыяле «Ці патрэбен Магілёву «Омсктэхвуглярод?» і па двух пунктах у матэрыяле «Як Валерый Каплунат адрэагаваў на публікацыю «Магілёўскага рэгіёна».

4 жніўня на электронную пошту "Магілёўскага рэгіёна" прыйшоў запыт з Ленінскага РАУС г. Магілёва за подпісам яго начальніка А. Шчарбакова з патрабаваннем прадаставіць інфармацыю пра аўтара артыкула «Ці патрэбен Магілёву «Омсктэхвуглярод?» "у сувязі з узнікшай службовай неабходнасцю". У адказ быў накіраваны ліст з просьбай паведаміць, у рамках расследавання якой крымінальнай справы супрацоўнікам міліцыі патрабуецца запытаная інфармацыя.

За некалькі тыдняў да таго галоўнага рэдактара "Магілёўскага рэгіёна" Зміцера Салаўёва выклікалі ў УУС Магілёўскага аблвыканкама, дзе супрацоўнікі міліцыі спрабавалі атрымаць ад яго тлумачэнні наконт апублікаваных на сайце артыкулаў пра «Омсктэхвуглярод» і яго кіраўніка, даведацца інфармацыю пра іх аўтара. Як патлумачылі супрацоўнікі міліцыі, кіраўніцтва «Омсктэхвуглярода» звярнулася ў міліцыю са скаргай на сайт. Салаўёў адказаў на некаторыя пытанні, давеўшы да іх ведама, што падчас падрыхтоўкі артыкулаў былі выкарыстаныя адкрытыя публікацыі ў расійскіх СМІ.

**30 кастрычніка** невядомы, які назваўся лейтэнантам КДБ, патэлефанаваў бацькам тэлежурналіста **Алеся Залеўскага**. Чалавек спытаў, як звязацца з Залеўскім, а затым стаў пагражаць ім. *«Ён пачаў казаць: ці вы ў курсе, што і ваш сын, і вы таксама выказваецеся супраць прэзідэнта? Альбо вы адмаўляецеся ад свайго сына? Мне дадзеныя паўнамоцтвы, я магу вам усё перакрыць,ператрасем у вас усё на працы»*, – працытавала свайго суразмоўцу маці Залеўскага. Алесь Залеўскі з'яўляецца аўтарам і вядучым праграмы "Людскія справы" на тэлеканале "Белсат". Ён палічыў, што відавочнай мэтай гэтых званкоў быў ціск на яго.

**3 лістапада** на інтэрнэт-старонцы Брэсцкага гарвыканкама з'явілася паведамленне "Аб афіцыйнай пазіцыі Брэсцкага гарадскога выканаўчага камітэта на размяшчэнне інфармацыі ў СМІ". Нагодай для такога звароту стала публікацыя на адным з рэгіянальных інтэрнэт-рэсурсаў пра будоўлю ў гістарычным цэнтры Брэста на вуліцы Савецкай. Хаця ў паведамленні гарвыканкама не пазначана, пра якую менавіта публікацыю вядзецца, можна меркаваць, што гэта была заметка на сайце **"Виртуальный Брест"** пад назвай "Гостиница медленно превращается, медленно превращается… в апартаменты?". У публікацыі выказвалася меркаванне, што падчас рэканструкцыі будынкаў было зменена мэтавае прызначэння аб'екта, што мусіць быць узгоднена ў гарвыканкаме. "Дадзеная інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці, а за каментаром у Брэсцкі гарвыканкам ніхто з прадстаўнікоў гэтага СМІ не звяртаўся", – адрэагавалі гарадскія ўлады. Чыноўнікі заявілі, што стасус будоўлі не быў зменены, а пасля прыняцця гарвыканкамам рашэння пра мэтавае прызначэнне аб'екта забудоўшчык абавязаны зарэгістраваць яго ў Брэсцкім агенцтве па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры ў адпаведнасці менавіта з мэтавым прызначэннем.

Апошні сказ у паведамленні ад імя гарадскіх уладаў тычыўся не толькі згаданай публікацыі: "Каб пазбегнуць апублікавання недакладнай інфармацыі, Брэсцкі гарадскі выканаўчы камітэт рэкамендуе прадстаўнікам СМІ ў пытаннях, якія тычацца жыццядзейнасці горада, звяртацца за каментарамі да службовых асоб Брэсцкага гарвыканкама і Брэсцкага гарадскога Савета дэпутатаў".

**9 лістапада** ў рэдакцыю **"Газеты Слонімскай"** завітаў участковы інспектар міліцыі Слонімскага РАУС Дзмітрый Кірыкаў, які папрасіў журналістаў даць тлумачэнні наконт артыкула "В литовской армии нет дедовщины, там каждый день казармы моет уборщица…" аўтарства журналістаў "Газеты Слонімскай" Таццяны Плахетка, Мікіты Пастухова і Міколы Канановіча, які выйшаў у кастрычніку 2017 г. Міліцыянер паведаміў, што з вобласці прыйшоў загад правесці праверку па факце публікацыі гэтага матэрыялу. Журналісты тлумачэнні далі, не назваўшы герояў публікацыі і іх дадзеныя.

**10 лістапада** здымачнай групе дзяржаўнага **тэлеканала СТВ** перашкаджалі здымаць антысанітарны стан фермы ў Баранавіцкім раёне Брэсцкай вобласці, якая належыць СПК "Уцёс". Кіраўнік прадпрыемства здымаў журналістаў на тэлефон, патрабаваў назваць імёны і пагражаў выклікаць міліцыю.

**13 лістапада** старшы інспектар прафілактыкі аддзела аховы правапарадку Полацкага РАУС М. Г. Перапечкін апытаў трох віцебскіх журналістаў з нагоды з'яўлення на сайтах www.svaboda.org і www.belsat.eu матэрыялаў пра забастоўку на ААТ "Полацк-Шкловалакно". Ён, у прыватнасці, апытаў **Алену Сцяпанаву** наконт яе візіту ў Полацк 13 кастрычніка. Як высветлілася, супрацоўнікі міліцыі распачалі праверку, ці было здзейснена правапарушэнне паводле ч. 2 арт. 22.9 КаАП (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ). Для гэтага маёр Перапечкін даслаў запыты ў РУП "Белтэлекам", ці не адпраўляліся матэрыялы на пэўныя сайты з ір-адрасоў пэўных камп'ютараў. Пра вынікі праверкі не паведамлялася.

**7 снежня** да блогера і грамадскага актывіста з Параф'янава Докшыцкага раёна **Кастуся Шыталя** наведалася міліцыя. Капітан міліцыі з Докшыцкага РАУС збіраў звесткі наконт незалежнага журналіста з Глыбокага **Змітра Лупача**. У гутарцы ўзгадаў рэпартаж тэлеканала "Белсат" пра збор подпісаў за стварэнне прыпынку хуткаснага цягніка "Мінск-Полацк" на станцыі Параф'янава. Міліцыянт паказаў фотаздымак Лупача і папрасіў апазнаць гэтага чалавека і прыгадаць, хто ў яго браў інтэрв'ю, калі ён збіраў подпісы ў жыхароў Параф'янава. Шыталь адказаў, што не памятае, у які дзень лістапада збіраў подпісы ў людзей на рынку і хто яго здымаў у той дзень. Міліцыянт збіраўся апытваць яшчэ двух герояў відэароліка ў якасці сведкаў, хоць у субтытрах прозвішчы жыхароў не былі названыя.

**16 снежня** ўкраінская незалежная журналістка **Міхайліна Скорык** была прымушаная міліцыяй пакінуць Беларусь. Яна прыляцела ў Мінск з Кіева ўвечары 14 снежня 2017 г., каб наведаць сваіх сяброў і планавала застацца тут на працягу пяці дзён. 16 снежня ёй патэлефанавалі з РУУС Фрунзенскага раёна і запрасілі на тэрміновую размову. Там супрацоўнік міліцыі Арцём Федасееў паведаміў Міхайліне, што яна знаходзіцца «ў спісе асоб, якім забаронены ўезд у Расійскую Федэрацыю». Ён сказаў, што ў Беларусі журналістка з'яўляецца непажаданай персонай таксама, таму што краіны маюць дамову аб Саюзнай дзяржаве. Міліцыянт таксама запытаў Скорык, ці мела яна што-небудзь агульнае з якой-небудзь тэрарыстычнай арганізацыяй ва Украіне. Журналістцы настойліва рэкамендавалася пакінуць Беларусь і больш сюды не вяртацца.

# ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА Ў СФЕРЫ СМІ

Асноўным станоўчым вынікам 2017 г. сталася вяртанне ў дзяржаўныя сеткі распаўсюду васьмі незалежных друкаваных перыядычных выданняў, якія былі выдаленыя з распаўсюду праз кіёскі "Белсаюздруку" і падпісных каталогаў "Белпошты" адзінаццаць год таму. Гэта стала вынікам сустрэчы галоўнага рэдактара газеты "Народная воля" Іосіфа Сярэдзіча з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, якая адбылася ў лютым 2017 года. І.Сярэдзіч перадаў кіраўніку дзяржавы спіс выданняў, якія не могуць трапіць у тую ці іншую дзяржаўную сетку распаўсюду СМІ. Пасля гэтага вярнуліся ў сістэмы "Белсаюздрук" і "Белпошта" наступныя выданні: «Борисовские новости», "Отдушина", «Вольнае Глыбокае», «Газета Слонімская», «Intex-press», «Новы час», «СНплюс. Свободные новости плюс», «ARCHE. Пачатак».

*У 2006 г. **амаль 20 незалежных грамадска-палітычных газетаў былі выключаныя з дзяржаўных сістэмаў распаўсюду** напярэдадні прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Скасаванне дамоваў з рэдакцыямі незалежных газетаў матывавалася, як правіла, эканамічнай немэтазгоднасцю. У выніку гэтых дзеянняў каля паловы з закранутых перыядычных выданняў спынілі сваё існаванне ў друкаваным выглядзе.*

**7 ліпеня** стала вядома, што адміністрацыя ААТ "Крычаўцэменташыфер" выдала распараджэнне аб арганізацыі падпіскі на пэўныя перыядычныя выданні на другое паўгоддзе 2017 г. за подпісам генеральнага дырэктара В. Карчэўскага. Падпіска на прадпрыемстве павінна была быць завершаная да 12 чэрвеня. Згодна з гэтым дакументам, арганізоўваць і кантраляваць правядзенне падпіскі на прадпрыемстве была абавязаная намесніца генеральнага дырэктара па ідэалагічнай працы, кадрах і сацыяльных пытаннях Жана Кустрэй. Свой загад В. Карчэўскі падрыхтаваў на падставе адпаведнага загаду Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь № 97 ад 29 красавіка 2017 г., а таксама лістоў "Кіруючай кампаніі холдынга "БЦК" і Магілёўскага філіяла "Белпошта".

27 лістапада Ваўкавыскі райвыканкам выдаў распараджэнне, адрасаванае кіраўнікам школ і садкоў раёна, аб падпісцы на першы квартал 2018 г. (яго апублікаваў у Інтэрнэце рэпетытар Яўген Лівянт). У гэтым дакуменце даводзіцца план падпіскі на «Советскую Белоруссию», «Настаўніцкую газету», «Гродзенскую праўду», «Наш час», у прыватнасці, колькі супрацоўнікаў установы адукацыі колькі і якіх менавіта газет маюць выпісаць. Пад дакументам стаіць подпіс начальніцы Ваўкавыскага адзела адукацыі Таццяны Газізавай.

**26 снежня Савет міністраў Беларусі зацвердзіў пералік з 23 сродкаў масавай інфармацыі, якім у 2018 г. будзе аказаная дзяржаўная падтрымка паводле ўказу Аляксандра Лукашэнкі.** У 2017 г. такіх выданняў было 26. Са спісу зніклі «Вожык» (беларускамоўны гумарыстычны часопіс), «Мастацтва» (беларускамоўны навукова-папулярны і грамадска-палітычны часопіс), «Здравоохранение» – расейскамоўны навукова-практычны рэцэнзаваны часопіс).

Сярод СМІ, якім аказваецца дзяржаўная падтрымка, засталіся: «Алеся», «Беларускі гістарычны часопіс», «Беларусь. Belarus», «Белорусская нива», «Бярозка», «Вместе!», «Вясёлка», «Журнал специального назначения», «Звязда» (і дадаткі «Чырвонка – Чырвоная зьмена», «Местное самоуправление», «Союз-Евразия»), «Знамя юности», «Зорька», «Культура», «Літаратура і мастацтва», «Маладосьць», «Народная асьвета», «Народная газета», «Нёман», «Полымя», «Родная прырода», «Рэспубліка», «Советская Белоруссия» (у сьпісе Саўміну фігуруе пад такой назвай, але сама называе сябе «СБ. Беларусь сегодня»), «Спортивная панорама» і «The Minsk Times» (дадатак «Голас Радзімы»).

**31 снежня,** згодна з Законам Рэспублікі Беларусь “Аб рэспубліканскім бюджэце на 2018 год”, на дзяржаўныя СМІ было выдзелена амаль 48 мільёнаў еўра. Гэта прыкладна на 1 млн еўра больш чым у 2017 г. Такім чынам, у 2018 г. з дзяржаўнага бюджэту Беларусі будзе выдаткавана:

- на тэлебачанне і радыёвяшчанне – 40,6 млн еўра (з іх 38,9 млн еўра – на Нацыянальную дзяржаўную тэлерадыёкампанію Рэспублікі Беларусь);
- на перыядычны друк і выдавецтвы – 2,5 млн еўра;
- на “іншыя пытанні ў галіне сродкаў масавай інфармацыі” – 4,8 млн еўра.